*Сядзібы — ад магнацкіх рэпрэзентатыўных замкаў і палацаў да дробнапамесных шляхецкіх фальваркаў — займаюць асаблівае месца ў гісторыі беларускай культуры. Вызначаючыся ў многіх выпадках адметнымі архітэктурна-планіровачнымі асаблівасцямі, сядзібы часта з'яўляліся важнымі асяродкамі назапашвання культурных каштоўнасцей. Некаторыя з іх ўяўлялі сабой значныя прамысловыя комплексы. Шмат якія сядзібы набылі шырокую вядомасць як радавыя гнёзды вядомых мысліцеляў і асветнікаў, дзяржаўных, грамадска-палітычных і рэлігійных дзеячаў. На жаль, большасць сядзібаў беззваротна зніклі, некаторыя захаваліся ў руінах ці стаяць занядбаныя, частка сядзібных комплексаў выкарыстоўваецца сёння ў сацыяльна-культурных і гаспадарчых мэтах. Вашай увазе прадстаўлены каталог сядзібаў, якія ўнесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь і знаходзяцца пад аховай дзяржавы.*

ISBN 985-6700-10-8



# Мінск

**❶ Сядзіба «Белая дача»** 2-я палова XIX ст.
*вул. Казінца, 76а*

Пабудавана ў 2-й палове XIX ст. на паўднёва-заходняй ускраіне Мінска. Уключае мураваны сядзібны дом, размешчаны на ўзгорку, і пейзажны парк на схілах. Прамавугольны партэр перад домам абсаджаны радамі ліп і таполяў. Сядзібны дом выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак. Сядзіба — помнік архітэктуры неакласіцызму.

**❷ Былая сядзіба Ваньковіча** XIX ст.
*вул. Філімонава, 24*

Заснавана ў 1-й палове XIX ст. у прыгарадзе Мінска Вялікая Сляпянка. Звязана з жыццём і творчасцю беларускага мастака Валенція Ваньковіча. Сядзіба ўключала мураваны сядзібны дом, бакавыя драўляныя флігелі, парк. Захаваліся сядзібны дом і 2 алеі, якія вядуць да сядзібы з боку горада. Сядзібны дом выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак. Помнік архітэктуры класіцызму.

**❸ Сядзіба Ваньковіча** Канец XVIII ст.
*вул. Інтэрнацыянальная, 33, 33а, 33б*

Гарадская сядзіба пабудавана на мяжы XVII—XIX ст. у гістарычным цэнтры г. Мінска. Належала Ваньковічам. Тут некаторы час жыў і працаваў беларускі мастак В. Ваньковіч. Сядзібны комплекс уключаў драўляны жылы дом, два флігелі, гаспадарчыя пабудовы, фруктовы сад. Жылы дом і два флігелі ўтваралі парадны двор-курданёр. Пасля рэстаўрацыі ў доме знаходзіцца філіял Нацыянальнага мастацкага музея. Мураваны флігель рэстаўрыруецца з прыстасаваннем пад адміністрацыйны будынак. Плануецца аднаўленне другога флігеля. Сядзібны комплекс — яркі прыклад гарадскога сядзібнага будаўніцтва эпохі класіцызму.


Рэканструкцыя сядзібы





**❹ Гарадская сядзіба** 2-я палова XVIII ст.
*пл. Свабоды, 15, 13/2*

Заснавана ў 2-й палове XVIII ст. у гістарычным цэнтры г. Мінска. Належала Станкевічам, Кабылінскім, мінскаму духоўнаму вучылішчу. Складалася з сядзібнага дома, двух мураваных бакавых флігеляў, якія ўтваралі парадны двор. Захаваліся сядзібны дом і адзін бакавы флігель. Выкарыстоўваюцца як адміністрацыйныя будынкі. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

**❺ Лошыцкі сядзібна-паркавы комплекс**
2-я палова XIX—пачатак XX ст.
*пр-д Чыжэўскіх, 10*



Маёнтак (двор) Лошыца вядомы з XVI ст. Належаў князям Талачынскім, затым Друцкім-Горскім. У пачатку XVIII ст. перайшоў у валоданне да Прушынскіх, якія ў 2-й палове XVIII ст. сфармавалі тут барочную сядзібу. Ад сядзібы Прушынскіх захавалася ліпавая алея і рэшткі капліцы-пахавальні. Сядзібны комплекс, які захаваўся да нашага часу, пабудаваны ў 2-й палове XIX—пачатку XX ст. Я. Любанскім. Сядзіба размешчана на паўднёва-ўсходняй ускраіне горада, каля былой в. Лошыца, у сутоку рэк Свіслачы і Лошыцы. Складалася з сядзібнага дома, флігеля, гаспадарчых будынкаў, прамысловага комплекса (вінакурні), пейзажнага парку. Была адной з лепшых гаспадарак Міншчыны, а маляўнічыя краявіды і гасціннасць гаспадароў прыцягвалі сюды шматлікіх гасцей, робячы яе вядомым асяродкам свецкага жыцця. І сягоння Лошыцкі сядзібна-паркавы комплекс прываблівае цяністымі алеямі, утульнымі палянамі, старымі будынкамі. Захаваліся сядзібны дом стылю мадэрн, флігель, гаспадарчыя пабудовы, вартоўня, вадзяны млын, вінакурня, парк з шматвяковымі ліпамі і дубамі, экзотамі.

# Мінская вобласць
# Барысаўскі раён

**❻ Фрагменты сядзібы «Двор»**
Канец XIX—пачатак XX ст.
*в. Імя Вароўскага*

Сядзіба сфарміравана ў 2-й палове XIX ст. Належала Тышкевічам. Уключала драўляны сядзібны дом, гаспадарчыя пабудовы, вінакурню, пейзажны парк з вадаёмам, фруктовы сад. Захаваліся фрагмент парку, вадаём, дзве стайні, спіртзавод, валоўня, пабудаваныя з камня і чырвонай цэглы.

**❼ Сядзіба вялікіх князёў Раманавых** XIX ст.
*в. Старабарысаў*

Маёнтак вядомы з сярэдзіны XVIII ст. Належаў Радзівілам. У сярэдзіне XIX ст. стаў уласнасцю князёў Раманавых. Сядзіба пабудавана Раманавымі на тэрасе ракі Бярэзіны. Уключала класіцыстычны палац, флігель, парк, гаспадарчыя і службовыя пабудовы. У пачатку XX ст. на пляцоўцы старажытнага гарадзішча пабудаваны новы сядзібны дом у стылі мадэрн. Захаваліся фрагмент парку, ліпавая алея, вадаёмы, парадны двор з мураваным флігелем, новы сядзібны дом, памятны валун.

## Бярэзінскі раён

**❽ Сядзібны дом** 1-я палова XIX ст.
*г. Беразіно, вул. Набярэжная, 1*

Сядзіба пабудавана ў 1-й палове XIX ст. Размешчана на правым крутым беразе р. Бярэзіны. Належала Патоцкім. Помнік архітэктуры позняга класіцызму.

## Валожынскі раён

**❾ Палацава-паркавы ансамбль** 1782—1806 гг.
*г. Валожын, вул. Чырвонаармейская*




Сядзіба пабудавана ў 1782—1806 гг. па праекту арх. А. Касакоўскага. Належала Тышкевічам. Палацавы ансамбль размешчаны на ўзвышаным беразе р. Валожынкі, з якога адкрываюцца маляўнічыя краявіды. Складаўся з палаца, флігеля, аранжарэі (раслі апельсіны, пальмы, ананасы), парку і саду. Палац з флігелем і будынкам аранжарэі ўтваралі вялікі парадны двор, упрыгожаны клумбамі з кветкамі і адзіночнымі дрэвамі (у наш час былы партэр часткова заасфальтаваны). За палацам на пяці тэрасах размяшчаўся парк. Сядзібныя будынкі выкарыстоўваюцца адміністрацыйнымі ўстановамі. Парк захаваўся часткова. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

**❿ Сядзіба мастака Ф. Рушчыца** 1783 г.
*в. Багданава*

Сядзіба Багданава вядома з 2-й паловы XVI ст. Належала Сапегам, Пацам, Даніловічам, Чаховічам. Апошнім уладальнікам быў вядомы мастак Фердынанд Рушчыц. Сядзіба размешчана ў маляўнічым месцы. Складалася са старога драўлянага дома, пабудаванага ў 1690 г., і мураванага дома, узведзенага ў класіцыстычным стылі ў 1783 г., бутавых склепаў. Пейзажны парк размяшчаўся вакол дома і ўздоўж ручая. У парку быў стаў з востравам. З паўночнага боку да парка прымыкаў фруктовы сад. Сядзіба згарэла ў 1944 г. і ў наш час фактычна страчана. Прасочваюцца заваленыя друзам падмуркі мураванага сядзібнага дома, падмуркі сыраварні, захаваліся фрагменты парку, свіран.

## Вілейскі раён

**⓫ Сядзіба Агіньскіх** 2-я палова XVIII ст.
*в. Ганута*



Малюнак Напалеона Орды

Маёнтак вядомы з 1501 г. Ім валодалі ў розныя часы Гальшанскія, Пацы, Сангушкі, Славенскія, Зяновічы, Коцелы. З 1723 г. належаў роду Агіньскіх. Рэзідэнцыя Агіньскіх была пабудавана ў 2-й палове XVIII ст. па праекту арх. Т. Жаброўскага ў стылі позняга барока.

Складалася з мураванага палаца, перад якім быў вялікі партэр з рэдкімі дэкаратыўнымі раслінамі. Партэр фланкіравалі стары будынак лямуса і кухні, каля ўязной брамы знаходзілася стайня. За домам размяшчаўся вялікі рэгулярны парк з вадаёмамі. У 1-ю сусветную вайну парк і сядзібныя будынкі былі моцна пашкоджаны, у 2-ю сусветную вайну разбураны цалкам. Зараз аб былой велічы рэзідэнцыі Агінскіх нагадваюць дзве капліцкі і невялікія фрагменты парку з вадаёмам.

### 12 Сядзібна-паркавы комплекс
2-я палова XVIII—XIX стст.

*в. Стайкі*

Заснавана ў 2-й палове XVIII ст. у маляўнічым высокім месцы. Належала Багдановічам. У пачатку XX ст. уключала сядзібны дом, пейзажны парк з сістэмай вадаёмаў, 2 уязныя брамы, вінакурню і шэраг гаспадарчых будынкаў. Захаваліся парк, часткова водная сістэма, вінакурня, гаспадарчыя пабудовы.

## Дзяржынскі раён

### 13 Сядзібна-паркавы комплекс «Капылiншчына» Канец XIX—пачатак XX ст.

*в. Волма*

Закладзена ў пачатку XX ст. на ўзвышанай тэрасе р. Волмы. Належала Капылінскаму. Складалася з сядзібнага дома, перад якім быў парадны двор, стайні, гаспадарчага двара і парку. Да сядзібы праз браму вяла ліпавая алея. Захаваліся фрагменты парку, сад, водная сістэма. З'яўляецца прыкладам невялікіх сядзіб.

### 14 Сядзіба Пачатак XIX ст.

*в. Волма*

Вёска і маёнтак вядомы з XV ст. З 2-й паловы XVIII ст. маёнтак належаў Ваньковічам. Сядзібны комплекс сфарміраваны ў XIX ст. на тэрасе р. Валмянкі. Уключаў парадны двор з сядзібным домам, флігель, кухню, капліцу, пейзажны парк і сад, вадаём і гаспадарчы двор. Захаваліся: сядзібны дом (адноўлены пасля вайны), службовы корпус, флігель-кухня, жылы будынак, руіны капліцы, гаспадарчы будынак, склеп, парк. Цяпер на тэрыторыі сядзібы размешчаны Міжнародны экалагічны універсітэт імя А.Д. Сахарава. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

### 15 Сядзіба акадэміка В.В. Пашкевіча
2-я палова XIX—пачатак XX ст.

*в. Гаруцішкі*

Сядзіба сфарміравана на роўнай тэрыторыі ў апошняй чвэрці XIX ст. Належала В. Пашкевічу, вядомаму вучонаму ў галіне пладаводства. Складалася з драўлянага сядзібнага дома і парка. На яе аснове была створана вопытная гаспадарка пладовых раслін. Захаваліся фрагменты пасадак парку.

## Капыльскі раён

### 16 Парк Канец XVIII—канец XIX ст.

*в. Бабоўня*

Маёнтак вядомы з 2-й паловы XVI ст. У XVII ст. валодалі Радзівілы, з XVIII ст. — Бярновічы. У 1823 г. набылі Наркевічы-Ёдкі. Сядзіба была сфарміравана ў XVIII ст. у барочным стылі, у 1880 г. пашырана і перапланавана ў эклектычных формах. Яна ўключала сядзібны дом, парк, сад, водную сістэму, гаспадарчыя будынкі (кароўнік, стайню, свіран, збожжасховішча), вінакурню, сыраварню і жылы дом для работнікаў. Сядзіба мела складаную і арыгінальную планіроўку. Сядзібны комплекс страчаны. Часткова захаваліся стары парк, водная сістэма, вінакурня (стаіць адасоблена сярод вясковай забудовы). Узрост некаторых ліп у парку дасягае 200 гадоў, векавыя дрэвы явара вышынёй 16-17 м.

### 17 Сядзіба Э. Вайніловіча 2-я палова XIX ст.

*в. Дунаева*

Вядома пад назвай Лапухі. Належала з 2-й паловы XIX ст. Вайніловічам, з 1903 г. — Наркевічам-Ёдкам. Уключала драўляны сядзібны дом, пейзажны парк з мноствам экзатычных раслін, сад, вадаёмы, гаспадарчы двор, вінакурню і маслазавод. Захаваліся ўязная алея, рэшткі пасадак парку, сада, свіран.

### 18 Сядзібна-паркавы комплекс 2-я палова XIX ст.

*в. Какорычы*

Маёнтак належаў Радзівілам, апошнімі ўладальнікамі былі Пашкевічы. Сфарміравана ў сярэдзіне XIX ст. на паўночны-захад ад вёскі, на маляўнічых схілах узгоркаў Капыльскай грады. Уключала драўляны сядзібны дом, уязную браму з алеяй, вадаёмы, пейзажны парк, размешчаны ваколараднага двара на схілах, сад. Захаваліся парк, сад, водная сістэма, гаспадарчыя пабудовы (перабудаваныя), брама.

### 19 Сядзібна-паркавы комплекс «Атонава» Сярэдзіна XIX ст.

*в. Сінячова*

Сядзіба закладзена ў сярэдзіне XIX ст. А. Наркевічам-Ёдкам. Складалася з драўлянага сядзібнага дома, гаспадарчых будынкаў, парку. Захавалася часткова. Сядзібны дом згарэў у час вайны, на яго месцы ўзведзены новы будынак. Захаваліся фрагменты парку, алея, гаспадарчыя пабудовы (свіран, кароўнік). На тэрыторыі сядзібы размешчана школа.

### 20 Сядзібна-паркавы комплекс «Пукава» Сярэдзіна XIX ст.

*в. Сунаі*

Маёнтак вядомы з XVII ст. Належаў Друцкім-Любецкім, затым Ёдкам. Сядзіба пабудавана Ёдкамі ў сярэдзіне XIX ст. Яна ўключала сядзібны дом, парк, сад, гаспадарчы двор (гумно, адрына, 3 свірны, стайня). Да нашага часу захаваліся сад, сядзібны дом у перабудаваным выглядзе, рэшткі паркавага павільёна, будынкі гаспадарчага двара, стаў. Тэрыторыя сядзібы выкарыстоўваецца.

### 21 Сядзібна-паркавы комплекс «Макраны» 2-я палова XVIII ст.

*в. Чырвоная Дубрава*




Сядзіба была сфарміравана К. Вайніловічам у першай чвэрці XIX ст. Уключала драўляны сядзібны дом, флігель, мураваны лямус, капліцу-пахавальню і царкву, аранжарэю, млын, малочны завод, вялікі гаспадарчы двор, пейзажны парк з вадаёмамі. Сядзіба мела падоўжна-восевую кампазіцыю. На канцах кампазіцыйнай восі знаходзіліся сядзібны дом і капліца. У парку стаялі лямус і аранжарэя, у якой вырошчвалі трапічныя і субтрапічныя расліны (ананасы). Сядзіба захавалася фрагментарна. Прасочваецца вось кампазіцыі, рэшткі парку з вадаёмам, месца сядзібнага дома, двара. Захаваліся руіны малочнага завода, капліцы, царквы.

## Клецкі раён

### 22 Фрагменты сядзібна-паркавага комплекса «Галынка» 2-я палова XVIII ст.

*в. Галынка*

Вотчынны маёнтак Вендорфаў. Апошнімі ўладальнікамі да 1939 г. былі Лазінскія. Тут правяла дзіцячыя гады польская пісьменніца Ева Фелінска. Сядзіба сфарміравана ў XVIII ст. на ўзвышанай тэрасе р. Начы ў барочных формах. Рысы барока асабліва выразна выяўляліся ў планіроўцы парка, размешчанага на штучных тэрасах і дэкарыраванага фармаванымі дрэвамі. У 1802—1812 гг. Вендорфы пабудавалі новы сядзібны дом з лістоўніцы ў стылі класіцызму, капліцу, вінакурню, свіран, рэканструявалі стары парк у пейзажны з матывамі рамантызму. У парку з'явіліся вадаёмы. Сядзіба страчана, захаваліся руіны. На мясцовасці прасочваюцца месцы былога сядзібнага дома, флігеля, фрагменты парку, руіны былых гаспадарчых і вытворчых пабудоў (свіран, вяндлярня, вінакурня і інш.), руіны капліцы. Вадаёмы спушчаны і зараслі вольхай. Захаваўся свіран-галубятня.

### 23 Сядзіба XIX—XX стст.

*в. Даматканавічы*

Невялікая сядзіба сфарміравана на ўзгоркавым рэльефе каля р. Лані на мяжы XIX—XX стст. Уключае сядзібны дом, парк. Сядзібны дом захаваўся, у ім знаходзіцца дзіцячы дом. Парк захаваўся фрагментарна. Сядзіба — помнік архітэктуры неакласіцызму.

### 24 Фальварак Вайніловічаў 2-я пал. XIX—пач. XX ст.

*в. Куцаўшчына*

Сфарміравана ў XIX ст. Належала Вайніловічам. Уключала мураваны сядзібны дом, дом эканома, два будынкі вінакурні, вялікі гаспадарчы будынак, парк з невялікім вадаёмам. Сядзібныя будынкі ў асноўным захаваліся, ад паркавых пасадак захаваліся асобныя дрэвы.

### 25 Сядзібна-паркавы комплекс Канец XVIII—пачатак XIX ст.

*в. Лецяшын*

Маёнтак належаў Несялоўскім. З 1788 г. па 1939 г. быў у валоданні Чарноцкіх. Сядзіба сфармавана Чарноцкімі ў канцы XVIII ст. на адкрытай жывапіснай мясцовасці. Уключала драўляны сядзібны дом, флігель, капліцу, стайню, 2 уязныя брамы, пейзажны парк з вадаёмамі, фруктовы сад. У сядзібе мелася багатая бібліятэка і архіў. У гады 2-й сусветнай вайны сядзіба згарэла. Захаваліся фрагменты парку, сады, вадаёмы, свіран пачатку XX ст., руіны аранжарэі.

### 26 Сядзіба 1909 г.

*в. Стралкава*

Невялікая сядзіба сфарміравана ў 1909 г. Належала В.Д. Стралку. Мае сіметрычна-восевую пабудову: на адной восі знаходзяцца брама, сядзібны дом, альтанка (не захавалася). За выязной алеяй размяшчаўся гаспадарчы двор. Дом і двор акружалі адзіночныя дрэвы і сад. Сядзібны комплекс у добрым стане захаваўся да нашага часу. Уключае сядзібны дом, свіран, дом парабкаў, браму, пад'язную алею. Дом выкарыстоўваецца як жылы. Помнік архітэктуры неакласіцызму.

### 27 Сядзібна-паркавы комплекс
Апошняя чвэрць XVIII—пачатак XX ст.
*в. Туча*

Маёнтак вядомы з XVI ст. Належаў Яленскім. Сядзіба пабудавана ў канцы XVIII ст. на невялікім узгорку. Ансамбль сядзібы арганізаваны паводле рэгулярнага тыпу планіроўкі. Цэнтрам кампазіцыі быў сядзібны дом. За домам размяшчаўся парк. Да яго прымыкаў сад. Гаспадарчы двор складалі будынкі вінакурні, кузні, кароўніка, стайні, свірна. Сядзібны дом адрэстаўраваны ў 1970-я гг., выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак. Захаваліся свіран і кузня, рэшткі вінакурні. Парк захаваўся часткова, складаецца з пейзажнай часткі вакол сажалкі. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

### 28 Сядзібна-паркавы комплекс 2-я палова XIX ст.
*в. Цясноўка*

Сядзіба сфарміравана ў 2-й палове XIX ст. у лагчынападобнай даліне. Належала Лабоцкім. Уключала сядзібны дом, флігель, гаспадарчыя пабудовы, сад на схілах даліны. Сядзіба захавалася, патрабуе рэстаўрацыі. Помнік архітэктуры неакласіцызму.

### 29 Палацава-паркавы ансамбль «Радзівілімонты» 1780—1783 гг.
*в. Чырвоная Зорка*



Адзін з найстарыжытнейшых маёнткаў Міншчыны, размешчаны на беразе р. Цапры. Належаў Радзівілам. Прайшоў некалькі этапаў фарміравання ад Рэнесансу да класіцызму. У сярэдзіне XVIII ст. на месцы ранейшай рэнесансавай сядзібы быў пабудаваны барочны палацава-паркавы ансамбль. Складаўся з драўлянага палаца, рэгулярнага парку, гаспадарчых і службовых будынкаў (кухня, дом адміністратара, свірны, гумно, сыраварня, вінакурня і інш.). У 1780-я гг. ствараецца новы палацава-паркавы ансамбль, які быў задуманы як летняя рэзідэнцыя. Уключаў палац, парк, 2 флігелі. На восі палаца стаяла мураваная брама. Акрамя таго, на тэрыторыі сядзібы знаходзіліся канцылярыя, стайня, свіран, вяндлярня, млын, капліца, службовы дом. На гаспадарчым двары стаялі дамы аканома, парабкаў, вінакурня і шэраг гаспадарчых пабудоў. За межамі сядзібы былі пабудаваны вадзяны млын і вятрак. Цэнтрам кампазіцыі быў новы палац, пабудаваны па праекту італьянскага арх. К. Спампані. Перад палацам быў аформлены вялікі партэр. Шырокая ўязная алея праходзіла паралельна палацу. Парк пейзажна-рэгулярнай планіроўкі з вадаёмамі паўкальцом ахінаў палац. У 1909 г. у час пажару згарэла большая частка сядзібы: палац, дамы эканома, парабкаў, вінакурня, свірны, стайні, гуіны, адрыны і г.д. Палац быў адноўлены. Зараз ад славутага палаца засталіся руіны. Парк захаваўся параўнаўча добра і адносіцца да ліку лепшых пейзажных паркаў рэспублікі. Растуць ліпы і клёны, узрост якіх перавышае 200 гадоў. Парк — помнік прыроды рэспубліканскага значэння.

### 30 Сядзіба 1-я палова XIX ст.
*в. Янавічы*

Сядзіба закладзена на тэрасе р. Лані. Належала Бжазоўскім, Вайцэхоўскім, Піляўскім, Яленскім. Пабудавана ў канцы XVII—пачатку XIX ст. Уключала сядзібны дом, флігель, жылы дом, капліцу, свіран, лядоўню, парк з вадаёмамі, гаспадарчы двор. Сядзіба захавалася фрагментарна. Сядзібны дом выкарыстоўваўся як жылы, зараз патрабуе рэстаўрацыі. Свіран у занядбаным стане.

## Лагойскі раён

### 31 Сядзіба Тышкевічаў XIX ст.
*г.п. Лагойск*



*Малюнак Напалеона Орды*

Гісторыя лагойскага маёнтка з 1528 г. звязана з родам Тышкевічаў. Адсюль паходзяць выдатныя беларускія вучоныя Канстанцін і Яўстафій Тышкевічы. Вялікую вядомасць меў музей старажытнасцей, створаны Кан-


Мінская вобласць

станцінам і Яўстафіем у лагойскім палацы. У музеі захоўваліся археалагічныя і нумізматычныя калекцыі, была багатая бібліятэка (500 старадрукаў), архіў налічваў больш за 1000 рукапісаў, карт, значнае месца ў музеі займалі творы майстроў Старажытнага Рыма, Фларэнцыі, Неапаля, карцінная галерэя. Лагойскі музей паслужыў асновай для стварэння музея старажытнасцей у Вільні.

Сядзіба сфарміравана Тышкевічамі ў 1-й чвэрці XIX ст. у стылі класіцызму. Уключала палац, кухню, лядоўню, стайню, пуню, хлеў, карчму, дом садоўніка, палатняную фабрыку, млын і шэраг гаспадарчых пабудоў. Кампазіцыйным цэнтрам сядзібы быў палац, пабудаваны ў 1814—1819 гг. на ўзвышаным месцы, над р. Гайнай. Перад палацам быў афармлены парадны партэр. Адначасова з палацам закладзены вялікі пейзажны парк у духу рамантызма. Ён працягнуўся на 700 м уздоўж правага берага Гайны. У кампазіцыйнае рашэнне парку быў пакладзены прынцып раскрыцця дальніх перспектыў на р. Гайне і выкарыстанне рэштказ замкавых умацаванняў. Быў адным з самых прыгожых паркаў у Беларусі, налічваў каля 300 розных назваў дрэў. З альтанкі на беразе ракі адкрываліся віды на маляўнічы навакольны ландшафт з поймай ракі і лясістымі ўзгоркамі. Адметнасцю парку з'яўляліся чысцейшыя гаючыя крынічкі, да якіх на лячэнне прыязджалі людзі з усіх куткоў Расійскай імперыі. У час 2-й сусветнай вайны палац разбураны, захаваліся падмуркі і фрагменты сцен. Парк захаваўся ў старых межах, аднак планіровачнае рашэнне ў значнай ступені зменена. Належыць да ліку лепшых пейзажных паркаў. Захаваліся драўляныя будынак палатнянай фабрыкі, будынак стайні, вартоўня, лядоўня.

### 32 **Сядзіба Ядвігіна Ш.** 2-я палова XIX ст.

*в. Карпілаўка*

Фальварак належаў роду Лявіцкіх, з якога паходзіць Антон Лявіцкі, вядомы ў беларускай літаратуры пад псеўданімам Ядвігін Ш. Сам Ядвігін Ш. з гумарам пісаў: «Месца, дзе размяшчалася сядзіба, вызначалася асаблівай жывапіснасцю, утульнасцю, у сувязі з чым мне зайздросціць уся вёска». Сядзіба ўключала просты драўляны дом, невялікі парк і сад, на ручаі вадаём з дамбай. Пейзажны парк быў сфарміраваны ўздоўж ручая. Асаблівую маляўнічасць сядзібе надаваў высокі пагорак са стромкім схілам з боку сада. З яго вяршыні адкрываліся перспектывы на сад, парк, маляўнічы ландшафт з марэннымі пагоркамі і пералескамі. Сядзібны дом згарэў у 1922 г. На яго месцы быў пабудаваны новы дом, пазней перавезены ў Радашковічы. Сад, пасаджаны А. Лявіцкім, вымерз у 1940 г. Захаваліся рэшткі парку, сада, крыніца.





### **Парк «Малыя Бясяды»** 2-я палова XIX ст.

*в. Малыя Бясяды*

Маёнтак вядомы з канца XVI ст. Належаў Тракеніцкім, Аўлагінскім, Арамовічам, Чаховічам. Сядзіба звязана з імем Зыгмунта Чаховіча, паплечніка К. Каліноўскага. Частым госцем быў малады Янка Купала. Сядзіба пабудавана Арамовічамі ў 2-й палове XIX ст. на жывапісных пагорках уздоўж р. Удры. Двухпавярховы сядзібны дом стаяў на самым высокім месцы сядзібы. На схіле перад домам быў аформлены газон, унізе збоку вадаём. Дом акружалі паркавыя пасадкі. За сядзібным домам шырокая алея з лістоўніцы вяла да ляснога возера Круглік, звязвала сядзібу з полем і лесам, служыла парадным выездам на Радашковічы і да касцёла. Гаспадарчы двор размяшчаўся збоку ад параднага двара. Сядзібны дом быў разабраны ў 1936 г. Захаваліся парк, вадаём, алея лістоўніцы.

### **Парк «Трусавічы»** 2-я палова XIX ст.

*в. Трусавічы*

Фальварак належаў Арамовічам і ўваходзіў у склад маёнтка Бясяды. З сярэдзіны XIX ст. у валоданні Чаховічаў. Сядзіба пабудавана ў 2-й палове XIX ст. на маляўнічым узгорку. У цэнтры сядзібы знаходзіўся мураваны аднапавярховы дом. Вакол яго быў створаны пейзажны парк, акружаны алеямі. Да сядзібы з супрацьлеглых бакоў вялі дзве алеі з лістоўніцы і таполі. Унізе пагорка знаходзіліся 2 вадаёмы. У склад сядзібнага комплекса ўваходзілі лядоўня, вінакурня і гаспадарчыя пабудовы. У час вайны сядзібны дом згарэў, страчаны будынкі вінакурні. Захаваліся парк, часткова алеі, вадаёмы, лядоўня з бутавага камня.

## Маладзечанскі раён

### **Парк** 2-я палова XVIII ст.

*в. Лешня*

З 1725 г. сядзіба належала Саковічам. Размешчана на роўнай тэрасе ручая. Мела падоўжную планіровачную кампазіцыю. Паўднёвую частку сядзібы займаў рэгулярны парк. Парк складаўся з 2 баскетаў. Перпендыкулярна да іх размяшчаўся парадны двор з сядзібным домам. З параднага двара перспектывы адкрываліся на вадаём. Сядзібны дом не захаваўся. Добра захаваліся паркавыя баскеты, вадаём.

### **Сядзіба Т. Зана і А. Тышынскага** Канец XIX ст.

*в. Мясата*

Фальварак вядомы з XVI ст. Належаў Збаражскім, Агінскім, з 1813 г. у валоданні Тышынскіх. У 1829—1838 гг. у сядзібе жыў вядомы польскі літаратуразнаўца

і празаік Аляксандр Тышынскі. У 1796 г. у Мясаце нарадзіўся Тамаш Зан, паэт, фалькларыст, прыродазнаўца. У 2-й палове XIX ст. Тышынскія перабудавалі фальваркавы двор, размешчаны на роўнай тэрыторыі ўздоўж р. Пісарэўкі. Сядзіба складалася з сядзібнага дома, парку, вадаёма з дамбай, млына, гаспадарчага двара. Захавалася часткова: сядзібны дом, фрагменты парку і воднай сістэмы. Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

## Мінскі раён

**37 Сядзіба С. Прушынскага** Апошняя чвэрць XVIII ст.
*в. Каралішчавічы*

Маёнтак належаў Друцкім-Горскім, з 1703 г. у валоданні Прушынскіх. Сядзіба была сфарміравана ў апошняй чвэрці XVIII ст. на высокай тэрасе р. Свіслачы. Уключала сядзібны дом, рэгулярны парк, касцёл і гаспадарчы двор. Парадны двор займаў высокую рачную тэрасу, уніз па схілах размяшчаўся парк, які вызначаўся маляўнічасцю дальніх перспектыў на пойму ракі і касцёл, што стаяў на супрацьлеглай тэрасе. Сядзібны дом згарэў у 1989 г. Касцёл значна перабудаваны. Захаваліся: тэрыторыя былога парку, тэрыторыя параднага двара, будынак свірана.

**38 Палацава-паркавы комплекс** 2-я палова XVIII ст.
*в. Прылукі*


*Малюнак Напалеона Орды, 1876*

Маёнтак вядомы з XVII ст. Належаў Агінскім, Іваноўскім, Ашторпам, Горватам, Гутэн-Чапскім. Сядзібны комплекс, які захаваўся да нашага часу, пачаў будаваць Л. Ашторп у 1851 г. Затым А. Горват перабудаваў былы «зачараваны замак» у раскошны неагатычны палац. У 1868 г. палац часткова згарэў. Быў адноўлены «па ўзору старога» новым уладальнікам Э. Гутэн-Чапскім. У палацы знаходзіліся бібліятэка ў некалькі тысяч тамоў на розных мовах, архіў. Сядзіба была своеасаблівым культурным цэнтрам. Тут збіраліся літаратары, мастакі, музыканты, артысты. Гасцілі Ч. Манюшка з сынам Станіславам, Напалеон Орда. Пры палацы сфарміраваны вялікі парк, які быў падзелены на 2 часткі: стары італьянскі і пейзажны. У аснову планіровачнага рашэння параднай часткі парка пакладзены прынцып светлавога кантрасту дзякуючы пераходу ад успрымання заценёных пейзажаў да добра асветленых. Ад уязной брамы да палаца вяла ліпавая алея шырынёй 8 м і даўжынёй 240 м. Летам кроны дрэў, пасаджаных праз 1 м, змыкаліся і стваралі высокі цяністы калідор. Перад палацам сфарміраваны вялікі партэр з традыцыйнай клумбай і вялікай агавай у цэнтры. Партэр быў фланкіраваны адзіночнымі дрэвамі і дэкарыраваны штамбаванымі ружамі.

У аснову кампазіцыі часткі парку за палацам пакладзены прынцып раскрыцця дальніх перспектыў на тэрасы, пойму ракі і навакольны ландшафт. Вось перспектывы завяршалася воднай сістэмай з абвадным каналам і 2 невялікімі вадаёмамі (паркавым і млыновым). У парку ўзводзяцца аранжарэя, вежа з гадзіннікам, капліца. Неад'емнай часткай Прылуцкай сядзібы з'яўлялася група гаспадарчых будынкаў, размешчаных з усходняга боку ад палаца. Алея вяла да мураванага двухпавярховага будынка стайняў. Далей за вадаёмам на ўзвышшы размяшчаўся арыгінальны комплекс гаспадарчых і службовых будынкаў (свіран, спіртзавод, 2 флігелі), узведзеных ў 2-й палове XIX ст. у адным стылі з палацам. Гэты комплекс будынкаў служыў для захавання і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі і ставіў сядзібу Чапскіх у Прылуках у лік перадавых гаспадарак таго часу ў Мінскай губерні. У 1944 г. палац быў часткова разбураны. У 1958—1959 гг. палац з прыбудаваным Г-падобным крылом адноўлены. Цяпер у ім размешчаны Беларускі навукова-даследчы інстытут аховы раслін. Палац быў і застаецца галоўнай архітэктурнай і гістарычнай дамінантай сядзібы.

Захаваўся з пэўнымі стратамі будынак стайні, адсутнічае вежа ў цэнтры галоўнага фасада. Будынак часткова выкарыстоўваецца пад жыллё і службовыя памяшканні Гатаўскага ВП ЖКГ, а часткова пад культурна-асветную ўстанову — Цэнтр народнай творчасці.

Будынкі гаспадарчага комплекса не выкарыстоўваюцца, патрабуюць рэстаўрацыі. Вежа з гадзіннікам, капліца, аранжарэі, млын разбураны ў гады апошняй вайны і не адноўляліся.

Парк захаваўся ў ранейшых межах, аднак парушана сістэма, зараслі вадаёмы. Тэрасы з паўднёвага боку густа зараслі самасевам. Дрэвы і кусты так разрасліся, што закрылі відавыя кропкі ад палаца. Бакавыя дарожкі і алеі слаба чытаюцца на мясцовасці, амаль цалкам парушаны ўсе візуальныя сувязі. Ад старой ліпавай алеі захавалася 6 дрэў. Нягледзячы на змены, парк і сягоння вызначаецца маляўнічасцю рэльефа і пейзажаў, наяўнасцю дальніх перспектыў.

### ❸❾ Сядзіба-паркавы комплекс 2-я палова XVIII ст.

*в. Сёмкава*

Маёнтак вядомы з XVI ст. Размешчаны на ўзгорыстым перасечаным месцы. З 1755 г. належаў Хмарам, з 1889 г. — Хелкоўскім. У 1775—1780 гг. Хмары будуюць новы сядзібны двор. Сядзіба ўключала сядзібны дом, 2 флігелі, аранжарэю, браму, альтанкі, французскі парк. У 1902 г. была пабудавана вінакурня, у якой у 1905 г. працаваў Я. Купала. Сядзіба мела падоўжную сіметрычна-восевую кампазіцыю. У цэнтры на ўзвышаным участку стаяў жылы дом з флігелямі. Увесь парадны двор быў заняты газонам з клумбамі. На адной восі з сядзібным домам размяшчалася брама. Парк быў заснаваны за сядзібным домам на тэрасах. Сядзіба захавалася часткова: сядзібны дом, флігелі, гаспадарчыя пабудовы, парк. Будынкі патрабуюць рэстаўрацыі. На тэрыторыі сядзібы цяпер знаходзіцца школа-інтэрнат.

## Мядзельскі раён

### ❹⓿ Сядзіба-паркавы комплекс

Канец XVIII — пачатак XX ст.

*в. Альшэва*




Маёнтак з канца XVII ст. у валоданні Хамінскіх. Сядзіба пачала фарміравацца Хамінскімі ў пачатку XVIII ст. на жывапіснай высокай тэрасе р. Страчы. На працягу 200 гадоў паступова пашыралася і дапаўнялася. Сядзібны дом быў пабудаваны ў сярэдзіне XVIII ст., затым неаднаразова дабудоўваўся. Дом акружаў парк, закладзены па прынцыпу тэрасных рэгулярных барочных паркаў. Яго тэрыторыя складаецца з 5 тэрас. Асабліва прыгожая панарама адкрывалася з краю стромкай тэрасы над бурлівай, нібы горнай ракой. З боку азёр парк не меў межаў і плаўна пераходзіў у лясныя ландшафты. У пачатку XX ст. Хамінскія стварылі складаную водную сістэму з 15 ставоў, каналаў, пратокаў для рыбнай гаспадаркі. На мяжы XIX—XX стст. сядзіба ўяўляла складаны комплекс, які ўключаў сядзібны дом, флігель, парк, сад, аранжарэю, дом садоўніка, лядоўню, свіран, кузню, вінакурню, вадзяны млын, электрастанцыю і шматлікія гаспадарчыя будынкі. Сядзіба была прываблівай дачай, дзе любіла збірацца інтэлігенцыя. Часта бываў тут Ф. Рушчыц. Сядзіба захавалася фрагментарна: паўразрушаны сядзібны дом, стайні, руіны пякарні, дом садоўніка. Парк, ставы зарастаюць.





### ❹❶ Парк «Нарач» 2-я палова XIX ст.

*в. Нарач*

Сядзіба закладзена ў 2-й палове XIX ст. на тэрасах ручая Сырмеж. Належала Пікутоўскім. Парадная частка мела сіметрычна-восевую кампазіцыю. З двух бакоў двор акружалі сады. За домам каля маляўнічага выгіну ручая быў размешчаны невялікі парк. Ад сядзібы захаваліся рэшткі: фрагменты парку, свіран. На месцы садоў — прыватная забудова.

### ❹❷ Сядзіба К. Суліstroўскага 2-я палова XVIII ст.

*в. Шэметава*




Сядзіба, ад якой захаваліся толькі фрагменты, была сфарміравана Сулістроўскімі і Скірмунтамі на маляўнічай узвышанай перасечанай тэрыторыі. Цэнтрам кампазіцыі быў драўляны сядзібны дом, пабудаваны прыкладна ў 1770—1780 гг. А. Сулістроўскім, удзельнікам паўстання 1794 г. У пачатку XIX ст. дом быў перабудаваны. Згарэў у 1943 г. Пры сядзібе на 2 тэрасах быў пасаджаны рэгулярны парк і сад. Да парку прымыкаў звярынец. Парк меў сістэму вадаёмаў. У XIX ст. ён быў перапланаваны ў пейзажны. На парадным двары з 2 бакоў ад сядзібнага дома стаялі 2 флігелі, з паўночна-ўсходняга боку за флігелем размяшчаліся аранжарэя і лядоўня. Сядзіба ўключала таксама гаспадарчы двор, будынак вінакурні і кузні. Ад сядзібы захаваліся рэшткі: тэрыторыя былога парку, уязная алея, водная сістэма, касцёл, гаспадарчы двор, руіны спіртзавода.

# Нясвіжскі раён

## 43 Палацава-паркавы ансамбль
XVI—XVII стст., XVIII ст.
*г. Нясвіж*


*Малюнак Напалеона Орды, 1876*

Нясвіжскі палацава-паркавы ансамбль адзін з найпрыгажэйшых і найцікавейшых у Беларусі. Сфарміраваны ў XVI—XIX стст. як рэзідэнцыя князёў Радзівілаў. Складаецца з палацава-замкавага ансамбля і вялікага парку, падзеленага штучнымі вадаёмамі на р. Ушы. У канцы XVI ст. Радзівіл Сіротка пры ўдзеле італьянскага арх. Я.М. Бернардоні заклаў замак з магутнымі валамі і бастыёнамі. У наступныя стагоддзі ўмацаваная рэзідэнцыя паступова ператварылася ў раскошны палац. У XVIII ст. у будаўніцтве палаца ўдзельнічалі такія вядомыя архітэктары як М. Педэці, М. Фларыяновіч, К. Спампані, А. Лоцы. У замку знаходзілася шмат каштоўнасцей, найбагацейшая бібліятэка і архіў, калекцыя зброі, партрэтная галерэя. Багата і шыкоўна былі аздоблены залы палаца. Парк пейзажна-рэгулярнага тыпу закладзены ў 2-й палове XIX ст. у пойме р. Ушы. Складаецца з 5 аўтаномных ландшафтных участкаў, кожны з якіх мае завершаную кампазіцыю. У парку больш за 90 відаў і форм дрэў і кустоў. Над стварэннем парку з 1878 па 1912 г. працаваў беларускі садавод А. Пастарэмчык. Мноства разнастайных раслін, высокая культура іх падбору і сёння складаюць асаблівую каштоўнасць парку. У палацы вядуцца рэстаўрацыйныя работы.

## 44 Паркавы комплекс «Альба» XVII—XVIII стст.
*пас. Альба*

Адзін з найбольш старых і цікавейшых паркавых комплексаў у Беларусі. Сядзіба была загараднай рэзідэнцыяй Радзівілаў з канца XVI ст. На працягу XVI—XVIII стст. у залежнасці ад патрабаванняў гаспадара і часу развівалася і ўдасканальвалася. Там былі пабудаваны павільён Эрмітаж, мураваны палац «Альба», створаны звярынец, псярня і фазанарый. Ансамбль уключаў некалькі італьянскіх паркаў, складаную сістэму каналаў і штучных азёр, якія жывіліся р. Ушай. Былі ў сядзібе каплічка і драўляны касцёл. На круглым востраве ўзведзена трох'ярусная драўляная альтанка. Да яе сыходзіліся ў выглядзе промняў каналы і вуліцы. У Альбе існавалі таксама аранжарэі, пасека, 4 млыны, шпіталь. У вайну 1812 г. асноўныя збудаванні былі разбураны, у 1860-я гг. у значнай ступені павысяканы дрэвы. У канцы XIX — першай палове XX ст. Альба мела галоўным чынам эканамічнае значэнне. Тут былі звярынец, фазанарый, гаспадарчыя пабудовы. У наш час захавалася водная сістэма з вадаёмамі і каналамі, парк з фрагментамі алей, добра выражана цэнтральная — самая старая алея. Узрост дрэў ад 100 да 300 гадоў.

## 45 Парк «Наруцавічы» 1-я палова XIX ст.
*в. Аношкі*

Маёнтак вядомы з XVIII ст. Належаў Абуховічам, затым Чапскім. Сядзіба фарміравалася Чапскімі ў 1-й палове XIX ст. Размешчана на жывапіснай узвышанай тэрыторыі. Сядзіба ўключала сядзібны дом, перад якім быў арганізаваны вялікі газон, флігель, лямус, уязныя брамы са скульптурамі св. Агаты, гаспадарчы двор, вадаёмы, парк і сад. З сядзібных пабудоў захавалася стайня. Унікальным з'яўляецца сядзібны парк. Ён не мае аналагаў сярод паркаў Беларусі. У ім няма характэрных алей, дрэўных масіваў. Парк сфармаваны дрэўнымі клумбамі, якія чаргуюцца на адзіным газоне. Кожная клумба індывідуальна па сваіх складзе і форме. Дзякуючы такой кампазіцыі парк добра праглядаецца і візуальна звязаны з прасторай прылеглых палёў.

## 46 Сядзіба Канец XIX—пачатак XX ст.
*в. Вялікая Ліпа*

Старажытная сядзіба належала Абуховічам. Прадстаўнік роду, уладальнік сядзібы Філіп Абуховіч вядомы як палітычны і ваенны дзеяч, пісьменнік. Сядзібны дом быў пабудаваны ў 1-й палове XVII ст. У пачатку XIX ст. дом быў перабудаваны ў класіцыстычным стылі. Закладзены пейзажны парк. Грунтоўная рэканструкцыя сядзібы адбылася ў пачатку XX ст. Сядзібны дом набыў неагатычныя рысы. У гэты час былі пабудаваны свіран, брама, гаспадарчыя будынкі. Сядзіба захавалася часткова: уязная брама, стайні, свіран, флігель, рэшткі парку.

## 47 Сядзібны дом Сярэдзіна XIX ст.
*в. Горны Сноў*

Фальварак належаў Рдултоўскім, затым Абуховічам, з 1854 г. — Гартынгам. Сядзіба была пабудавана ў сярэдзіне XIX ст. Гартынгамі. Уключала сядзібны дом (у пачатку XX ст. дабудаваны), парк, сады, гаспадарчы двор. Парк спалучаў рысы рэгулярнага і пейзажнага, размяшчаўся на 3 тэрасах. З усходняга і паўднёвага бакоў да парку прымыкалі вялікія сады. Захаваліся:

сядзібны дом, два гаспадарчыя будынкі. Кампазіцыя і дэкаратыўнасць парку парушана пасляваеннымі пасадкамі, сады павысяканы ў 1980-я гг.

### 48 Сядзібна-паркавы комплекс «Завушша»
2-я палова XVIII — пачатак XX ст.

*в. Завушша*

Маёнтак належаў Радзівілам, Мараўскім, Віттенштэйнам, Гартынгам. На месцы старой радзівілаўскай сядзібы ў 2-й палове XVIII ст. Мараўскія сфарміравалі новую, якая складалася з сядзібнага дома, брамаў, капліцы, парку, сада, стайні, вінакурні, карчмы, млына, вяндлярні, кухоннага флігеля, лядоўні і інш. гаспадарчых будынкаў. Размяшчалася ў жывапісным месцы на высокай тэрасе з пакатым схілам да поймы ракі. Парадны двор займаў самую высокую частку тэрасы. Сядзібны дом пабудаваны ў 1770 г. з лістоўніцы. Разам з 2 драўлянымі флігелямі, стайняй і вазоўняй утваралі замкнёны ўнутраны дворык. Пры Мараўскіх быў закладзены невялікі рэгулярны парк, які складаўся з 2 ліпавых алей. Гартынгі на схіле тэрасы і пойме заснавалі вялікі пейзажны парк. Да парку прымыкаў сад. Ад сядзібы захаваліся рэшткі: парк, руіны капліцы, лядоўня, свіран, млын.

### 49 Палацава-паркавы ансамбль 1827 г.

*в. Сноў*



Малюнак Напалеона Орды, 1876

Маёнтак вядомы з XVI ст. Належаў Радзівілам, Гарабурдам, з 1639 г. Рдултоўскім, а з 1854 г. — Гартынгу. Сядзіба пабудавана ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. Рдултоўскім. Размешчана на роўнай тэрасе р. Сноўкі. Цэнтрам кампазіцыі вялікага ансамбля быў палац, перад якім сфарміраваны вялікі партэр з газонам, па перыметры абсаджаны алеямі. За палацам разбіты пейзажны парк з сажалкамі. Палац захаваўся і прыстасаваны пад медыцынскую ўстанову. Парк захаваўся часткова, яго кампазіцыя была парушана пазнейшымі пасадкамі. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.





## Пухавіцкі раён

### 50 Сядзіба Ельскіх 2-я палова XVIII ст.

*в. Дудзічы*

Маёнтак вядомы з 1600 г. Належаў Адахоўскім, Быхаўцам, Заранкам-Гарбоўскім, Прозарам, з 1785 г. — Ельскім. Сядзіба размешчана на р. Пцічы. Пабудаваная Юзафам Прозарам у 1767—1769 гг., яна ўключала сядзібны дом, які разам з 2 флігелямі ўтвараў курданёр, свіран, у 1-м ярусе якога была ўязная брама, млын, корчмы, аранжарэю, царкву, гаспадарчыя будынкі. За домам размясціўся рэгулярны парк у выглядзе невялікіх баскетаў. У пойме р. Пцічы быў створаны ніжні парк з арыгінальнай воднай сістэмай. Пры Ельскіх сядзіба набыла шырокую вядомасць як цэнтр рамёстваў. Сядзібныя пабудовы страчаны, захаваліся рэшткі парку і воднай сістэмы. У 1990-я гг. пачалося адраджэнне былой сядзібы сіламі работнікаў цэнтра «Паліфакт». Аднаўляюцца не толькі будынкі, але і традыцыі, рамёствы, культурная і гаспадарчая дзейнасць.

## Слуцкі раён

### 51 Сядзіба Даманскіх 2-я палова XVIII — XIX ст.

*в. Заляддзе*

Сядзіба належала Радзівілам, з 1821 г. — Даманскім. Размешчана на ўзгорку, з якога адкрываюцца маляўнічыя віды на наваколле. Сядзіба пабудавана Даманскімі ў сярэдзіне XIX ст. на месцы старой барочнай сядзібы Радзівілаў, ад якой і зараз прасочваюцца рэшткі баскета рэгулярнага парку. Парадны двор складалі драўляны сядзібны дом, флігель, свіран, жылы дом, пякарня і лядоўня. Двор быў акружаны пейзажным паркам, створаным у канцы XIX ст. садаводам Рынскім. Ад сядзібных пабудоў захаваліся рэшткі мураванага млына. Часткова захаваўся парк, аднак планіроўка яго страчана.

## Смалявіцкі раён

### 52 Сядзіба Пачатак XX ст.

*в. Шыпяны*

Маёнтак належаў Масальскім, Агінскім, Манюшкам, Ваньковічам. Сядзіба размешчана на паніжанай тэрыторыі. На мяжы XIX—XX стст. была рэканструявана. Уключала сядзібны дом, браму, шэраг службовых і гаспадарчых пабудоў (кухня, сыраварня, лесапільня, жылы дом, стайня), парк регулярна-пейзажнай планіроўкі. Сядзіба захавалася часткова: жылы дом, стайня і рэшткі парку.

## Стаўбцоўскі раён

**53 Сядзібна-паркавы комплекс** 1-я палова XIX ст.
*в. Вялікі Двор*

Маёнтак належаў Радзівілам, Брахоцкім, апошнімі ўладальнікамі былі Мірскія. Сядзібны дом пабудаваны каля 1830 г. А. Брахоцкім. Сядзібны комплекс складаўся з сядзібнага дома, парку, крухмальнага завода, млына, свірна, гаспадарчага двара. Парадная частка сядзібы мела сіметрычна-восевую кампазіцыю. На асноўнай восі размяшчалася ўязная алея, якая вяла да газона з традыцыйным кругам у цэнтры перад сядзібным домам. Вось сіметрыі захоўвалася і ў парку за сядзібным домам. Сядзіба захавалася фрагментарна: парк, вадаём, сядзібны дом, руіны свірна, камера для сушэння ільну, гаспадарчыя пабудовы. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

**54 Сядзібна-паркавы комплекс**
Канец XVIII — пачатак XX ст.
*в. Сула*




Старажытны маёнтак вядомы з XVI ст. З канца XVIII ст. у валоданні Ленскіх. Сядзіба будавалася ў пачатку XIX ст. Ленскімі. Уключала сядзібны дом, пейзажны парк з вялікім штучным вадаёмам, капліцу-пахавальню, млын на ручаі, спіртзавод, лядоўню, аранжарэю з агародам, вяндлярню і гаспадарчы двор. Захавалася часткова: фрагменты парку, вадаём, руіны капліцы, спіртзавода, гаспадарчыя пабудовы, флігель, лядоўня.

## Уздзенскі раён

**55 Сядзіба «Наднёман»** 1830-я гг.
*в. Наднёман*

Маёнтак вядомы з XVI ст. Належаў Алелькавічам, Радзівілам, з 1823 г. — Ёдкам. Мемарыяльны характар сядзібы Наднёман звязаны з жыццём і дзейнасцю Якуба Наркевіча-Ёдкі, вядомага беларускага медыка і прыродазнаўцы. Сядзіба сфарміравана ў 1-й трэці XIX ст. на высокім правым беразе р. Нёман. Уключала палац, флігель, аўчарню, стайню, свіран, валоўню, вінакурню, аранжарэю, іншыя гаспадарчыя пабудовы, пейзажны парк, браму. Пры Якубе Наркевічы-Ёдку ў палацы і іншых пабудовах сядзібы былі абсталяваны электрафічная, хімічная, электрабіялагічная і астранамічная лабараторыі. За сядзібай у лесе ў 1892 г. быў пабудаваны санаторый для лячэння нервовахворых і «слабагрудых» сродкамі электратэрапіі і мінеральнымі водамі. Сёння ад сядзібы захаваліся фрагменты.





**56 Сядзібна-паркавы комплекс «Кухцічы»** Канец XVIII — пачатак XX ст.
*пас. Першамайск*



Малюнак Напалеона Орды

Маёнтак вядомы з XVI ст. Належаў Кавячынскім, Горскім, Завішам. Сядзіба закладзена Казімірам Завішам на мяжы XVIII—XIX стст. на тэрасе р. Уздзянкі. Сядзібна-паркавы комплекс складаўся з палаца з 2 флігелямі, перад якім быў вялікі газон, па баках і з тылу палац быў акружаны ландшафтным паркам. Асобна размяшчаўся гаспадарчы двор. Частку сядзібы займаў сад. У найбольш высокім месцы пабудаваны кальвінскі збор. Сядзіба захавалася фрагментарна: флігелі, кальвінскі збор, парк, стайня, млын, свіран.

**57 Сядзібна-паркавы комплекс** 1-я палова XIX ст.
*в. Таўкачэвічы*

Маёнтак вядомы з XVI ст. Сядзіба, рэшткі якой захаваліся, сфарміравана Грабоўскімі ў 1-й палове XIX ст. на месцы ранейшай барочнай. Складалася з драўлянага сядзібнага дома, капліцы-пахавальні, парку з вадаёмамі, аранжарэі, стайні, гаспадарчых будынкаў. Сядзіба захавалася фрагментарна: рэшткі парку, сажалкі, свіран, стайня. Былы парадны двор забудаваны ў пасляваенны час.

# Чэрвеньскі раён

**58** **Сядзіба-паркавы комплекс** 2-я палова XIX ст.
*в. Раванічы*


Малюнак Напалеона Орды

Маёнтак належаў Масальскім, з канца XVIII ст. — Слатвінскім. Сядзібна-паркавы комплекс сфарміраваны на працягу 2-й паловы XIX ст. на высокай рачной тэрасе. Складаўся з палаца, флігеляў, шэрагу вытворчых і гаспадарчых пабудоў. Схілы тэрасы і пойму р. Ушы займаў пейзажны парк з вадаёмамі. Сядзіба захавалася, палац у 1952 г. рэстаўраваны. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

**59** **Сядзіба С. Манюшкі** Пачатак XIX ст.
*в. Убель*


Малюнак Напалеона Орды

Маёнтак належаў Сапегам, Завішам, Агінськім, з 1791 г. — Манюшкам. Тут 5 мая 1819 г. нарадзіўся кампазітар Станіслаў Манюшка. Апошнімі ўладальнікамі былі Дзікоўскія і Аземблоўскія. Сядзіба размешчана ў маляўнічым месцы, на роўнай тэрасе. Сфарміравана ў 2-й палове XVIII — пачатку XX ст. Уключала сядзібны дом, капліцу-пахавальню, гаспадарчыя пабудовы, парк. Сядзіба не захавалася. Фрагментарна прасочваюцца рэшткі алеі і парку. У 1966 г. у парадная частцы сядзібы ўстаноўлены памятны абеліск.





# Брэсцкая вобласць
# Баранавіцкі раён

**60** **Сядзіба — мемарыял А. Міцкевіча**
XVIII ст., 1993—1998 гг.
*в. Завоссе*


Малюнак Напалеона Орды

Сядзіба належала дробнапамеснаму роду. Уяўляла сабой традыцыйны фальварак, які складаўся з гаспадарскага дому, лямуса, свірана. Тут 24.12.1798 г. нарадзіўся знакаміты паэт Адам Міцкевіч. У 1998 г. фальварак цалкам рэканструяваны, у ім працуе музей-сядзіба А. Міцкевіча. З часоў паэта захаваліся толькі старая ліпа і невялікая сажалка.

**61** **Палац** 1-я палова XIX ст.
*в. Паланэчка*


Малюнак Напалеона Орды

З 2-й паловы XVIII ст. да 1939 г. Паланэчка была ва ўласнасці Радзівілаў. Палацава-паркавы ансамбль пабудаваны ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. над невялікай р. Змейкай (Дзвеяй). Ансамбль уключаў палац, аранжарэю, уязную браму, млын, пейзажна-рэгулярны парк, капліцу-пахавальню. У палацы была ўнікальная

бібліятэка, архіў, калекцыя мастацкіх твораў і манет. Пасля Вялікай Айчыннай вайны адноўлены мураваны будынак палаца, у якім цяпер размешчана сярэдняя школа. Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Тэрыторыя парку забудавана, часткова перапланавана.

## Брэсцкі раён

### 62 Сядзібна-паркавы комплекс 1770-я гг.

*в. Скокі*


Малюнак Напалеона Орды

Сядзіба вядома з XVI ст. У XVII ст. Скокі перайшлі ва ўласнасць Нямцэвічаў. У 1757 г. тут нарадзіўся пісьменнік і грамадскі дзеяч Юльян Нямцэвіч. У 1770-я гг. быў пабудаваны новы мураваны палац. Перад палацам стаялі два бакавыя флігелі. Сядзіба ўключала фамільную капліцу, гаспадарчыя пабудовы, браму з агароджай, парк рэгулярна-пейзажнага тыпу з сажалкай. У 1-ю і 2-ю сусветныя войны пабудовы сядзібы былі разбураны. Захаваліся палац і парк. У палацы размясцілася школа-інтэрнат. У сучасны перыяд вядзецца аднаўленне і рэстаўрацыя. Плануецца стварыць музей гісторыі асветы і пісьменства. Палац — помнік архітэктуры барока.

## Бярозаўскі раён

### 63 Сядзібна-паркавы комплекс

2-я палова XVIII — 1-я палова XIX ст.

*в. Старыя Пескі*

З XVII ст. і па 1939 г. маёнтак належаў графам Пуслоўскім. Старапескаўскі палацава-паркавы ансамбль, сфарміраваны ў канцы XVIII — 1-й палове XIX ст., размяшчаўся на маляўнічым беразе Чорнага возера. Складаўся з палаца (згарэў у 1843 г.), будынкаў стайні, «павільёна руж», аранжарэі, ветрака, бровара, уязной






Малюнак Напалеона Орды

брамы. На схіле да возера, вакол 2 сажалак і каналаў быў разбіты пейзажны парк. Да нашага часу захаваўся будынак стайні. Кампазіцыя паркавай зоны значна парушана. Вядуцца рэстаўрацыйныя работы.

## Ганцавіцкі раён

### Сядзіба 2-я палова XIX ст., 1911 г.

*в. Агарэвічы*

У XVIII ст. маёнтак належаў Свяржынскім, з сярэдзіны XIX ст. — роду Апаскіх. Сядзібна-паркавы комплекс сфарміраваны ў 2-й палове XIX ст. Уключаў драўляны дом (у 1911 г. дабудаваны), мураваныя стайню, гумно і ўязную браму. Вакол іх быў закладзены рэгулярны парк з пладовым садам і сажалкамі. У 1990-я гг. сядзіба адрэстаўравана.

## Драгічынскі раён

### Сядзібна-паркавы комплекс XIX ст.

*в. Закозель*


Малюнак Напалеона Орды

Радавое гняздо вядомага роду Ажэшкаў. З 1923 г. па 1939 г. валодалі Талочкі. Сфарміравана на працягу XIX

ст. Палац быў узведзены ў пачатку XIX ст. У 1839 г. па праекту арх. Ф. Яшчалда пабудавана капліца-пахавальня, якая стала сапраўдным упрыгожаннем сядзібнага ансамбля. У склад сядзібы ўваходзіла вінакурня. Сядзібныя будынкі былі размешчаны ў парку пейзажнага тыпу з сістэмай вадаёмаў. Сядзіба захавалася часткова: капліца-пахавальня, вінакурня, парк. Сядзібны дом страчаны. Парк і капліца патрабуюць рэстаўрацыі.

### 66 **Сядзібна-паркавы комплекс** Пачатак XIX ст.

*в. Пярковічы*




Вёска Пярковічы вядома з XV ст. Сядзіба першапачаткова належала роду Тарлецкіх. З 1756 г. валодалі Віславухі. Сядзібны комплекс пачаў фарміравацца ў пачатку XIX ст. У аснову планіроўкі ансамбля пакладзена падоўжна-восевая кампазіцыя з сядзібным домам у цэнтры парку. Да 2-й сусветнай вайны ў палацы існавала антыкварная мэбля, каштоўная калекцыя мастацкіх твораў, бібліятэка. Галоўная алея злучае сядзібны дом і царкву, арыентаваныя адзін да аднаго галоўнымі фасадамі. Гаспадарчыя пабудовы былі вынесены за межы парку (не захаваліся). Палац выкарыстоўваецца і належыць санаторна-лясной школе. Парк захаваўся часткова. Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

## Івацэвіцкі раён

### 67 **Палацава-паркавы комплекс** XIX ст.

*г. Косава, ур. Мерачоўшчына*

Косаўскі маёнтак вядомы з XV ст. У розныя часы належаў Храптовічам, Сангушкам, Ляшчынскім, Сапегам, Флемінгу, Чартарыйскім. У 1821 г. набыў В. Пуслоўскі. У 1838 г. Пуслоўскія пабудавалі прыгожы палац па праекту арх. Ф. Яшчалда. Над інтэр'ерамі палаца працавалі арх. У. Марконі і дэкаратар А. Жмурка. У палацы мелася калекцыя разнастайнай па стылі мэблі, карцін, посуду, антыкварыяту. Вакол палаца быў закладзены цудоўны парк на ўзор рэнесансавых садоў Італіі. Вызначаўся каштоўным дэндралагічным складам. У 1-ю сусветную вайну палац быў пашкоджаны. У адрэстаўраваным будынку да 1939 г. знаходзілася адміністрацыя староства Косаўскага павета. У 2-ю сусветную вайну спалены партызанамі. У пасляваенны перыяд вынішчаны парк. Палац і парк патрабуюць рэстаўрацыі. Палац — помнік архітэктуры, які ўдала спалучае рысы класіцызму і неаготыкі.





### 68 **Сядзіба Андрэя Тадэвуша Касцюшкі** XVIII ст.

*г. Косава, ур. Мерачоўшчына*



Малюнак Напалеона Орды

Фальварак Мерачоўшчына вядомы з XVI ст. Уваходзіў у склад Косаўскага маёнтка. У 1-й палове XVIII ст. фальварак арэндаваў Людвік Касцюшка. Тут у фальварковым доме ў 1746 г. нарадзіўся будучы кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. Андрэй Тадэвуш Касцюшка. Сядзібны дом быў драўляны. Яго абкружаў пейзажны парк. У 1857 г. сядзібны дом быў адрэстаўраваны. Да 2-й сусветнай вайны ў доме знаходзіўся музей Т. Касцюшкі. У вайну дом быў знішчаны. Сядзіба мае мемарыяльнае значэнне. У 1999 г. каля падмуркаў былой сядзібы пастаўлены памятны знак. Плануецца аднаўленне дома.

## Камянецкі раён

### 69 **Палацава-паркавы ансамбль** 1678-1680 гг., 1816 г.

*г. Высокае*



Малюнак Напалеона Орды

У 1678—1680 гг. тагачаснымі ўладальнікамі Сапегамі на правым беразе р. Пульвы быў закладзены прыгожы замак з бастыённай сістэмай умацаванняў і парк з вадаёмам. Замак неаднаразова гарэў і разбураўся. Ад яго за-

хаваліся толькі руіны ўязной брамы. У 1815 г. Пелагея Патоцкая, жонка Паўла Сапегі, распачала будаўніцтва новай рэзідэнцыі. Палацавы комплекс складаўся з 3 карпусоў: мураванага рэпрэзентатыўнага палаца і 2 Г-падобных у плане флігеляў. Палацавыя пабудовы дапаўняліся пейзажным паркам з вадаёмамі. У 1895 г. парк перапланаваны В. Кроненбергам. У савецкі час кампазіцыя ансамбля моцна парушана. На яго тэрыторыі пабудаваны жылыя дамы, гаспадарчыя аб'екты і новы будынак школы-інтэрната. У 1990-я гг. пачалася рэканструкцыя паркавага ландшафту. Плануецца рэстаўрацыя замкавай брамы і палаца. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

### 70 Сядзіба Сярэдзіна XIX ст.
*в. Грымяча*


1914

Фальварак Грымяча належаў Гасеўскім, Сапегам, Флемінгам, Чартарыйскім, Нарбутам, Гажыцам, Пузынам. Сядзіба пабудавана Пузынамі ў XIX ст. у маляўнічым месцы, на пагорку, у выгіне р. Пульвы. У комплекс уваходзяць мураваны палац, пейзажны парк, 3 мураваныя гаспадарчыя пабудовы. Сядзіба захавалася ў адносна добрым стане. Выкарыстоўвалася пад летні дзіцячы лагер. У 2000 г. пачалася рэстаўрацыя палаца, у 2001 г. праведзены работы па даследаванні і ачыстцы парку ад хмызняку. Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

### 71 Памятны знак на месцы сядзібы Р.Л. Траугута XIX—XX стст.
*в. Шастакова*

Былая сядзіба Траугутаў і Гафмейстараў. Тут у 1826 г. нарадзіўся адзін з кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. Рамуальд Траугут. Сядзіба была невялікая, выглядала даволі сціпла. Драўляны аднапавярховы сядзібны дом абкружаўся невялікім пейзажным паркам. У 1920-я гг. польскія ўлады ўстанавілі каля дома мемарыяльны знак на ўшанаванне памяці Рамуальда Траугута з надпісам на мармуровай дошцы. У пасляваенныя час дом і помнік знішчаны. У 1988 г. недалёка ад дома ўстаноўлены новы знак — камень з плітой на ўспамін пра славутага суайчынніка.





## Кобрынскі раён

### 72 Парк імя А.В. Суворава 1768 г.
*г. Кобрын, паўднёвая ўскраіна горада*

Закладзены ў 1768 г. Антоніем Тызенгаузам на паўднёвай ускраіне горада пры фальварку, які з 1795 г. належаў А.В. Сувораву, у 1808 г. перайшоў да Гельвіга, а з сярэдзіны XIX ст. — да брата Адама Міцкевіча, Аляксандра. У XVIII ст. парк займаў невялікую плошчу. У цэнтры яго знаходзіўся пладовы сад і невялікая сажалка. На беразе сажалкі стаяў драўляны дом (разабраны ў 1894 г.). Парк абкружалі земляны вал і глыбокі роў. Паступова парк пашыраўся. Цяпер парк мае рэгулярную сістэму планіроўкі. У ім налічваецца каля 70 відаў розных парод дрэў і кустоў.

### 73 Сядзібны дом А.В. Суворава 1790 г.
*г. Кобрын, вул. Суворава, 16*

Пабудаваны ў 1790 г. з дрэва. У 1797 і 1800 гадах у доме жыў рускі палкаводзец А. В. Суvoраў. У пачатку 1860-х гг. у гэтым доме жыў Р. Траугут — адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг. У гады Вялікай Айчыннай вайны дом быў разбураны, у 1946 г. адноўлены, у 1948 г. у ім створана ваенна-гістарычная экспазіцыя, прысвечаная жыццю і дзейнасці А.В. Суворава.

## Ляхавіцкі раён

### 74 Сядзібна-паркавы комплекс XIX—XX стст.
*в. Грушаўка*

З XVII ст. радавы маёнтак Рэйтанаў. Тут жыў Тадэвуш Рэйтан, палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай. На мяжы XIX—XX стст. стары сядзібны двор быў перабудаваны. Сядзіба ўключала драўляны жылы дом, 2 бакавыя флігелі, бровар, капліцу, невялікі парк і пладовы сад з вадаёмамі, гаспадарчыя будынкі. Кампазіцыйнай воссю з'яўляецца цэнтральная алея, якой падпарадкавана размяшчэнне ўсіх пабудоў. У баку ад сядзібнага комплекса, на ўзлеску знаходзіцца капліца-пахавальня. У цяперашні час на тэрыторыі сядзібы захаваліся сядзібны дом, два флігелі, капліца-пахавальня, вінакурня, дзве стайні, аранжарэя, дом упраўляючага, свіран, гумно, аўчарня, майстэрня, лядоўня, рэгулярны парк. Зберaглося адно з самых вялікіх у Беларусі дрэў кіпарысавіка гарохаплоднага. Комплекс мае мемарыяльнае значэнне, патрабуе рэстаўрацыі.

### 75 Сядзібна-паркавы комплекс 1810—1815 гг.
*в. Нача*

Вёска Нача мае даўнюю гісторыю, вядома з сярэдзіны XVI ст. Сядзіба размешчана на р. Начы. Пабудавана

Чарноцкімі ў 1810—1815 гг., у 1905—1910 гг. па праекту арх. А. Крыжаноўскага перабудаваны палац. Ансамбль сядзібы мае рэгулярную планіроўку з мураваным палацам у цэнтры. Перад палацам аформлены вялікі газон, да якога вяла шырокая ўязная алея, абсаджаная італьянскімі таполямі. За палацам разбіты пейзажны парк, злучаны з садам і з захаду абмежаваны вадаёмам. Службовыя і гаспадарчыя будынкі размяшчаліся абапал уязной алеі. Сядзіба захавалася: палац, флігель, гаспадарчыя пабудовы, стайня, парк, рэшткі сонечнага гадзінніка. У парку зберагліся вельмі рэдкія для Беларусі віды раслін: старэйшы экзэмпляр арэха чорнага (вышыня 25 м, дыяметр 81 см), конскі каштан васьмітычынкавы з Паўночнай Амерыкі.

### 76 Парк «Савейкі» 1850-я гг.

*в. Савейкі*

Маёнтак Савейкі ў розныя часы належаў Бенігсенам, Чапскім, Незабытоўскім, Рдутлоўскім, апошнімі гаспадарамі былі Навіцкія. Дата будаўніцтва сядзібы дакладна невядомая. Пейзажны парк быў закладзены ў 1850-я гг. на двух тэрасах. Яго парадная частка мае сіметрычную планіроўку. Уязная алея, абсаджаная елкай і клёнам, перасякаецца з папярочнай алеяй і выходзіць на вялікі роўны парадны партэр. З заходняга боку партэра размешчаны прамавугольнай формы стаў. За палацам размешчана пейзажная частка парку, якая завяршаецца сажалкай з выспамі. Уздоўж кампазіцыйнай восі чаргуюцца невялікія паляны і групы дрэў. У паўднёва-заходняй частцы парку тры вадаёмы рознай формы, злучаныя пратокамі, праз якія пабудаваны арачныя масткі з бутавага каменю. Былы палац быў разбураны ў гады апошняй вайны, адноўлены. Захаваўся гаспадарчы будынак. На тэрыторыі сядзібы размешчаны санаторый.

## Пінскі раён

### 77 Сядзібны дом 1920 г.

*в. Заполле*



Фальварак вядомы з XV ст. Гаспадарамі фальварка былі Друцкія-Любецкія, Пуслоўскія, Плятэры. Сядзібны дом пабудаваны Плятэрамі ў 1920-я гады ў старажытным парку. Зараз знаходзіцца ў занядбаным стане. У парку растуць векавыя дубы, клёны, каштаны і іншыя дрэвы мясцовых парод.





### 78 Парк «Парэчча» 1910 г.

*в. Парэчча*

Радавы маёнтак Скірмунтаў, вядомы з 1495 г. Першапачаткова належаў Войнам-Грычановічам, Полазавым, Цярлецкім, Агіньскім, з 1792 г. — уладанне Скірмунтаў. Сядзібны комплекс фарміраваўся на працягу амаль стогадовага перыяду. Пры Скірмунтах маёнтак ператварыўся ў адзін з буйнейшых прамысловых цэнтраў на Палессі. У 1835 г. пабудаваны цукровы завод, у 1837 г. — суконная фабрыка, у 1905 г. — бровар, існаваў крухмальны завод. У гады 1-й сусветнай вайны абсталяванне заводаў было разрабавана, будынкі часткова разбураны. У канцы XIX ст. адзін са старых завадскіх будынкаў быў перабудаваны пад палац. У перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі былы палац перабудаваны пад казіно, у 1943 г. знішчаны партызанамі. Значнае месца ў сядзібе займае паркавая зона. Парк мае рэгулярную планіроўку. Кампазіцыйным цэнтрам была невялікая паляна з 2 валунамі ў атачэнні дубоў. Ад паляны ў розныя бакі разыходзіліся сцежкі. Выразная геаметрычная сетка алей гарманіруе з ландшафтам. Парк мае каштоўны дэндралагічны склад. У ім каля 30 відаў дрэў, ёсць шэраг экзатычных насаджэнняў: елка залацістая, дуб балотны, дуб чырвоны, кіпарыс балотны, цюльпанавае дрэва. Вядуцца работы па рэканструкцыі парку. З сядзібных пабудоў захаваліся толькі будынак крухмальнага завода і млын.

## Пружанскі раён

### 79 Гарадская сядзіба Сярэдзіна XIX ст.

*г. Пружаны (у парку)*



*Малюнак Напалеона Орды*

Радавы маёнтак Швыкоўскіх. Сядзібны дом пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. па праекту Ф.М. Ланці. Вакол дома быў закладзены пейзажны парк з аранжарэяй, дзе вырошчвалі апельсінавыя і лімонныя дрэвы, пальмы. Сядзібны дом адрэстаўраваны, у ім размешчаны раённы музей.

**80** **Сядзіба, старажытны парк** 2-я палова XVIII ст.
*пас. Інтэрнацыянальны*

Палацава-паркавы ансамбль пабудаваны на мяжы XVIII—XIX стст. Трымбіцкімі на месцы ранейшай сядзібы. Мураваны палац абкружаўся пейзажным паркам, які меў падоўжна-восевую кампазіцыю. Шырокая ўязная алея была аздоблена каштоўным экзотам — ліпай крымскай. Да парку прымыкаў пладовы сад. У склад комплекса ўваходзілі размешчаныя на сядзібным двары стайня і крухмальны завод. Захаваліся палац і парк, выкарыстоўваюцца ў гаспадарчых мэтах.

**81** **Сядзіба, старажытны парк** Сярэдзіна XIX ст.
*в. Каштанаўка*

Маёнтак вядомы з XVI ст. Належаў Кернажіцкім. У пачатку XIX ст. стаў уласнасцю Дзяконскіх, якія і пабудавалі сядзібу. Цэнтрам сядзібнага комплекса быў аднапавярховы драўляны з мураваным двухпавярховым крылом сядзібны дом. Парк фарміраваўся з лясного масіву, які абкружаў двор. Складаўся з 2 частак: параднай з боку ўязной алеі і пейзажнай за сядзібным домам. Парк моцна пацярпеў пад час 1-й і 2-й сусветных войнаў. У выніку безгаспадарчых адносін зарос, абмялелі сажалкі. Палац доўгі час не выкарыстоўваецца, моцна разбураны. З сядзібай звязана жыццё паэта Альбіна Дзяконскага.

**82** **Сядзіба, старажытны парк** 2-я палова XVIII ст.
*в. Магілёўцы*

Старадаўні маёнтак, які першапачаткова належаў Быхаўцам, затым Дзяконскім. Сядзіба сфарміравана Быхаўцамі ў сярэдзіне XVIII ст. Пабудаваны палац, капліца, закладзены парк. У палацы была вялікая і каштоўная бібліятэка, доўгі час захоўваўся рукапіс Літоўскай хронікі. Пасля вайны ў сядзібе была размешчана бальніца для псіхічна хворых людзей. Кампазіцыя парку моцна парушана.

**83** **Палацавы комплекс** XVI ст., 1-я палова XVIII ст.
*г.п. Ружаны*



Малюнак Напалеона Орды

Старадаўні палацава-паркавы ансамбль, галоўная рэзідэнцыя Сапегаў. Стваралася некалькімі пакаленнямі. Канцлер Леў Сапега ў пачатку XVII ст. узвёў тут палац. У 1784—1788 гг. палац грунтоўна перабудаваны па праекту арх. Я.С. Бекера. Быў створаны палацавы комплекс з некалькіх згрупаваных вакол параднага двара карпусоў, з паркам, садамі, аранжарэяй. Сіметрычна размешчаныя карпусы злучаліся з палацам паўцыркульнымі аркадамі. Парк з каналамі, сажалкамі спраектаваны Я.С. Бекерам з паўночага боку палацавага ансамбля. У аснову кампазіцыі быў пакладзены прынцып радыяльна-кальцавой планіроўкі алей. Перспектыва кожнай ліпавай алеі канчалася паркавым павільёнам. Палац у 1914 г. згарэў, часткова рэстаўраваны ў 1930 г. Разбураны ў 1944 г. Захаваліся рэшткі асноўных будынкаў (галоўнага і ўсходняга карпусоў), аркады, уязная брама і флігелі.

## Столінскі раён

**84** **Парк «Манькавічы»** 1885 г.
*г. Столін, на ускраіне*



1938

Фальварак належаў Радзівілам. У другой палове XIX ст. Радзівілы перабудавалі старую сядзібу, заклалі пейзажны парк. Захаваўся закладны камень з датай закладкі парку — 1885 г. Парк займае высокую маляўнічую тэрасу на беразе р. Гарыні. Меў багацейшы склад экзатычных раслін. Цэнтрам кампазіцыі быў мураваны палац, пабудаваны па праекту арх. Венцаля. Перад палацам аформлены кветнікавы партэр. Пры ўездзе ў сядзібу ўзведзена мураваная брама. У склад сядзібы ўваходзілі таксама драўляны флігель, дом для прыслугі, кухня, млын, 3 гумны, саладоўня і інш. У Вялікую Айчынную вайну палац згарэў, моцна пацярпеў парк. У пошуках Радзівілаўскіх скарбаў яго ўвесь перакапалі. Пасля вайны былі праведзены вялікія работы па ўратаванню дрэў, добраўпарадкаванню тэрыторыі. З пабудоў засталіся толькі некаторыя гаспадарчыя.

# Віцебская вобласць
# Аршанскі раён

## 85 Сядзібна-паркавы комплекс 1901 г.
*в. Межава*




Сфарміравана на мяжы XIX—XX стст. Належала Дзеражынскім. Сядзіба размешчана на схілах лагчыны, утворанай ручаём Варанец і р. Аршыцай. Сядзібны дом пабудаваны ў 1901 г. Перад домам размешчаны партэр і пладовы сад. З паўднёвага боку ад дома разбіты пейзажны парк з выкарыстаннем існуючых пасадак. Парк размешчаны на перасечаным рэльефе, мае маляўніча пераплеценыя сеткі дарожак. У 2-ю сусветную вайну частка сядзібнага дома была разбурана, у 1950 г. аднаўлена з нязначнымі перабудовамі. Выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак. Сядзіба — помнік архітэктуры стылю мадэрн.

# Бешанковіцкі раён

## 86 Палацава-паркавы ансамбль
XVIII — 1-я палова XIX ст.
*г.п. Бешанковічы, на паўночнай ускраіне*


Малюнак Напалеона Орды

Маёнтак належаў Агінскім, з 1786 г. — Храптовічам. Палацава-паркавы ансамбль пабудавны ў канцы XVIII — 2-й палове XIX ст. на беразе р. Заходняй Дзвіны. Уключаў мураваны палац, рэгулярны парк на тэрасах, якія спускаліся да Заходяй Дзвіны, 2 сажалкі, аранжарэю, гаспадарчыя пабудовы. У XIX ст. парк быў пераплынаваны ў пейзажны, пасаджаны сад. У гады 2-й сусветнай вайны парку нанесены страты. Сядзіба захавалася, выкарыстоўваецца навучальнай установай. У парку пераважаюць мясцовыя пароды дрэў, ёсць шэраг экзотаў.

## 87 Парк 1769 г.
*в. Бачэйкава*




Маёнтак вядомы з 1-й паловы XVII ст. Належаў Цеханавецкім. У 1769 г. быў пабудаваны новы палац (не захаваўся). Затым вакол палаца закладзены парк, адзін з прыгажэйшых рэгулярных паркаў у Беларусі. Размешчаны на прыпойменным верхнім плато і пакатым схіле на правым беразе р. Улы. Парк рэгулярнага тыпу, спланаваны па прынцыпу прамавугольнай сіметрычна-восевай кампазіцыі. Быў афармлены партэрам, газонамі, шпалерамі, баскетамі, фантанам, лабірынтам. Складаная камбінацыя дарожак утварала манаграму ініцыялаў уладальніка маёнтка і геральдычныя фігуры фамільнага гербу. У вуглавых частках парку былі размешчаны штучныя вадаёмы. Парк моцна пашкоджаны ў Вялікую Айчынную вайну, страчана сетка дарожак, кампазіцыя некаторых баскетаў, аднак і сёння застаецца адным з лепшых рэгулярных паркаў, яркім прыкладам умелага будаўніцтва парку з улікам асаблівасцей рэльефа.

## 88 Парк «Саломінка» Пачатак XX ст.
*в. Дабрыгоры*

Закладзены ў 1906 г. ваенным урачом П. Красавіцкім у невялікім маёнтку на беразе р. Крывіцы. Структуру парку вызначалі тры алеі, якія разыходзіліся ад параднай часткі. Большую плошчу парку займаў сад. У парку расце каля 30 відаў дрэў, шмат экзотаў.

### 89 Сядзібны комплекс «Нізгалава»
2-я палова XIX ст.
*в. Двор Нізгалава*

Пабудавана ў 2-й палове XIX ст. на беразе р. Улы. Уключае сядзібны дом, флігель, кухню, кузню, вяндлярню, 2 гаспадарчыя карпусы, парк. Парк першапачаткова меў рэгулярную планіроўку, складаўся з 9 аднолькавых баскетаў. Пры перапланіроўцы ў пейзажны былі пасаджаны экзоты, дэкаратыўныя кусты, зроблены маляўнічыя палянкі. У цэнтры паляны, да якой вядзе ліпавая алея, пасаджаны рэдкі ў рэспубліцы кедр еўрапейскі калонападобны. Сядзібны дом быў пашкоджаны ў 1944 г., у 1970 г. адноўлены. Цяпер на тэрыторыі сядзібы размешчана навучальная ўстанова. Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

## Браслаўскі раён

### 90 Сядзіба Канец XVIII ст.
*в. Відзы-Лаўчынскія*

Маёнтак вядомы з XVI ст. Належаў Нарушэвічам, з сярэдзіны XVII ст. — Ваўжэцкім. Адным з уладальнікаў быў Т.А. Ваўжэцкі, удзельнік паўстання 1794 г., паплечнік Т. Касцюшкі. Апошнімі гаспадарамі сядзібы былі Мінейкі. Ансамбль сядзібы сфарміраваны ўздоўж берага возера Дворнае ў канцы XVIII ст. Цэнтрам кампазіцыі з'яўляўся сядзібны дом з парадным прамавугольным партэрам перад ім. З паўночнага боку ад дома размяшчаліся бровар і гаспадарчы двор. На невысокім пагорку закладзены пейзажны парк. У XIX ст. сядзіба славілася серавадароднымі крыніцамі, на базе якіх быў створаны курорт. Захаваліся сядзібны дом, рэшткі парку, гаспадарчыя пабудовы. У сядзібным доме размешчана навучальная ўстанова.

### 91 Парк XVIII ст.
*г.п. Друя*

Закладзены ў XVIII ст. на левым беразе Заходняй Дзвіны пры палацы Сапегаў. Парк рэгулярнага тыпу. Да парку прымыкае пладовы сад.

### 92 Сядзібна-паркавы комплекс 1904 г.
*в. Опса (2 км ад вёскі)*

Размешчана на ўсходнім беразе невялікага возера Опса. Належала Плятэрам. Сфарміравана ў 1904 г. Сядзібны дом пабудаваны па праекту арх. Целяжынскага. Ансамбль уключае сядзібны дом, флігель, гаспадарчыя пабудовы (пуніца, стайня, вазоўня, свіран) і пейзажны парк, які з трох бакоў акружае сядзібныя пабудовы.





## Верхнядзвінскі раён

### 93 Парк 2-я палова XVIII ст.
*г.п. Асвея*


Малюнак Напалеона Орды

Пасаджаны ў XVIII ст. пры сядзібе А.Я. Гільзена, з 1786 г. належала Шадурскім. Сядзібны комплекс уключаў палац, капліцу, пейзажны парк з аранжарэямі, ставамі, брамай. Палац быў разбураны ў 1-ю сусветную вайну, захаваліся руіны. Парк займае роўную тэрыторыю на беразе возера. У аснову яго кампазіцыі пакладзена складаная водная сістэма. Ставы, каналы, пратокі кальцом ахопліваюць тэрыторыю парку, ствараючы ілюзію астраўнога становішча яго цэнтральнай часткі. У парку пераважаюць мясцовыя пароды дрэў. Захаваўся часткова, заходняя частка забудавана. Адзін з лепшых узораў садова-паркавага мастацтва эпохі рамантызму на Віцебшчыне.

### 94 Сядзібна-паркавы комплекс 2-я палова XIX ст.
*в. Вопытная*

Створана ў 2-й палове XIX ст. Належала Лапацінскім. Уключае сядзібны дом з парадным партэрам перад ім, капліцу, гаспадарчыя пабудовы (свірны, стайні) і пейзажны парк з сажалкай. Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

### 95 Парк XIX ст.
*в. Сар'я*

Закладзены ў XIX ст. як прысядзібны на р. Сар'янцы. Захаваліся парадны партэр, штучныя насыпныя ўзгоркі, маляўнічыя паляны, алеі.

## Віцебскі раён

### 96 Музей-сядзіба мастака І.Я.Рэпіна XIX ст., 2000 г.
*в. Здраўнева*

Сядзіба размешчана на высокай тэрасе Заходняй Дзвіны. Сядзібны дом стаяў у глыбіні пейзажнага пар-

ку. З 1892 г. па 1900 г. тут жыў і працаваў І. Рэпін. Ён дабраўпарадкаваў сядзібу, перабудаваў дом. Захаваліся сажалка, фрагмент алеі, парку, склеп, дом аканома. Сядзібны дом быў адноўлены ў 2000 г.

## Докшыцкі раён

**97 Брама** Пачатак XVIII ст.
*в. Сітцы*

Брама пабудавана ў пачатку XVIII ст. пры ўездзе ў былую сядзібу. Сядзіба не захавалася.

## Міёрскі раён

**98 Сядзібна-паркавы комплекс** 1810—1820 гг.
*в. Дзедзіна*

Сфарміравана ў 1810—1820 гг. па праекту арх. Віткоўскага. Належала А. Рудніцкаму, апошнім уладальнікам быў Вішнявецкі. Размешчана на ўзгорку. Уключала сядзібны дом, перад якім быў разбіты пейзажны парк, гаспадарчыя будынкі. Захаваліся сядзібны дом і 2 гаспадарчыя будынкі, парк з сажалкай захаваліся часткова. Помнік архітэктуры класіцызму.

**99 Сядзіба** Канец XIX — пачатак XX стст.
*в. Камянполле*

Сфарміравана ў канцы XIX — пачатку XX стст. Размешчана ў заходняй частцы вёскі. Сядзіба ўключае дом, гаспадарчыя пабудовы, парк, пладовы сад. Сядзібны дом пабудаваны ў 1873 г., стаіць адасоблена ў парку. Комплекс гаспадарчых будынкаў размешчаны абапал пад'язной дарогі. Сярод іх вылучаецца будынак стайні (1907 г.), лядоўня (1873 г.), кузня (1907 г.). Невялікі парк рэгулярнага тыпу размешчаны на раўніннай тэрыторыі. У цэнтры кампазіцыі парку прамавугольны партэр, абкружаны фруктовым садам. Тэрыторыя парку абмежавана каналамі.

**100 Сядзібна-паркавы комплекс**
2-я палова XVIII — пачатак XIX ст.
*в. Лявонпаль*


1939

Створана ў 2-й палове XVIII — пачатку XIX ст. на левым беразе Заходняй Дзвіны. Належала М. Лапацінскаму. Сядзібны комплекс меў сіметрычна-восевую кампазіцыю.





Сядзібны дом і 2 бакавыя флігелі ўтваралі прасторны парадны двор. Па вуглах 2 брамы ў выглядзе простых пілонаў фіксавалі ўезды на сядзібны двор. Аналагічныя пілоны па флангах сядзібнага дома афармлялі ўваходы ў парк. Невялікі парк быў закладзены на 2 тэрасах за сядзібным домам на схіле да ракі. У XIX ст. ён набыў рысы пейзажнага. Гаспадарчы двор размяшчаўся збоку, за ярам. Сядзібны дом быў пабудаваны ў 1750 г., у 1898—1901 гг. адноўлены. Захаваліся сядзібны дом, флігель, чатыры брамы, парк. Сядзіба — помнік архітэктуры барока.

## Пастаўскі раён

**101 Палац Тызенгауза** 2-я палова XVIII — XIX стст.
*г. Пастаі, вул. Савецкая, 73*


1920

Палацава-паркавы комплекс заснаваны Тызенгаузамі на левым беразе р. Мядзелкі. Будаўніцтва распачата ў 1760-я гг. і завершана ў 1-й палове XIX ст. У XIX ст. К. Тызенгаузам у палацы былі створаны арніталагічны музей і карцінная галерэя. Комплекс уключае мураваны палац, гаспадарчы флігель і парк рэгулярна-пейзажнага тыпу з вадаёмамі. У пасляваенны час у палацы была размешчана медыцынская ўстанова. Палацава-паркавы комплекс — помнік архітэктуры класіцызму.

**102 Сядзібны дом Альфрэда Ромера** XIX ст.
*в. Каралінова*


1939

Драўляны сядзібны дом пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. У 1874 г. тут пасяліўся Альфрэд Ромер, беларускі мастак, этнограф, фалькларыст. У наш час у доме знаходзілася школа. Будынак патрабуе рэстаўрацыі.

## Полацкі раён

**103 Сядзіба Паклеўскіх-Козелаў** Сярэдзіна XIX ст.
*в. Быкаўшчына*

Сфарміравана ў сярэдзіне XIX ст. Належала Паклеўскім-Козелам. Захаваліся: жылы дом, флігель, гаспадарчыя пабудовы, падземная частка фамільнага склепу, парк, ставы, алеі.

**104 Сядзібны дом** Пачатак XX ст.
*в. Бяздзедавічы*

Комплекс створаны ў пачатку XX ст. на левым беразе р. Ушачы. Уключае сядзібны дом, пейзажны парк з сістэмай сажалак і гаспадарчыя пабудовы. Сядзібны дом размешчаны на невысокім узгорку ў цэнтры ансамбля. Паркавыя курціны кампануюцца вакол 2 сажалак і сістэмы каналаў.

## Расонскі раён

**105 Сядзібны дом** 1900 г.
*г. Расоны*

Сядзіба пабудавана памешчыкам Гласкам на мяжы XIX—XX стст. на беразе воз. Расона. Захаваўся сядзібны дом. Помнік архітэктуры неаготыкі.

## Сенненскі раён

**106 Сядзібна-паркавы комплекс** 2-я палова XIX ст.
*в. Старая Беліца*




Створаны ў 2-й палове XIX ст. у цэнтры вёскі, на ўзвышшы. Належаў Свяцкім. Уключае мураваны сядзібны дом, пейзажны парк з сажалкай, склад, свіран, спіртзавод, спіртасховішча, кароўнік. Сядзіба мае мемарыяльнае значэнне. Тут у 1903—1904 г. працаваў Я. Купала. Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму.





## Талачынскі раён

**107 Парк** Канец XIX ст.
*г. Талачын*

Размешчаны ў паўднёвай частцы Талачына, на ўзвышшы, апаясаным р. Друць. Сфарміраваны ў канцы XIX ст. як прысядзібны. Парк пейзажнага тыпу пераважна з мясцовых парод дрэў.

## Ушацкі раён

**108 Сядзібна-паркавы комплекс** Сярэдзіна XIX ст.
*в. Арэхаўна*



Сфарміраваны ў сярэдзіне XIX ст., размешчаны на паўночнай ускраіне вёскі. Сядзіба належала Грамніцкім, затым В. Забелу. Ансамбль сядзібы мае рэгулярную схему планіроўкі. У цэнтры знаходзіцца сядзібны дом, пабудаваны ў 1840 г. За домам разбіты невялікі парк з вадаёмам. Перад домам абапал партэра размешчаны гаспадарчыя пабудовы. Сядзіба захавалася. Помнік архітэктуры класіцызму.

## Шаркоўшчынскі раён

**109 Сядзібны дом** Пачатак XX ст.
*г.п. Шаркоўшчына*

Пабудаваны ў пачатку XX ст. Размешчаны ў парку на беразе р. Дзісны. Помнік архітэктуры неакласіцызму.

### ⓫⓪ **Сядзібна-паркавы комплекс** 1782 г.
*в. Германавічы*

Маёнтак належаў Гільзену, затым Зрыні-Шырыну. Сядзіба сфарміравана ў канцы XVIII ст. на правым беразе р. Дзісны. Сядзіба мае рэгулярную планіроўку. У цэнтры кампазіцыі знаходзіцца сядзібны дом з партэрам. За домам да ракі на 2 тэрасах разбіты парк з садам і сажалкамі. На паўночны ўсход ад дома размешчаны 3 гаспадарчыя будынкі. Сядзіба захавалася, парк відазменены ў сувязі з пасляваенным будаўніцтвам школьных будынкаў. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

### ⓫⓫ **Сядзібна-паркавы комплекс** XVIII—XIX стст.
*в. Дзіўная*

Сфарміраваны на працягу XVIII—XIX стст. Належаў Жабам, з 2-й паловы XIX ст. — Зіберг-Плятэрам. Уяўляў сабой даволі вялікі і складаны комплекс, створаны ў маляўнічым месцы. Уключаў парк, палац, флігель, бровар, млын, стайню, майстэрню, кузню, капліцу, аранжарэю, браму і гаспадарчыя пабудовы. Сядзібны дом пабудаваны ў канцы XVIII ст. на краю схіла тэрасы (у пачатку XX ст. часткова перабудаваны). Побач з домам узведзена капліца. Парадная частка парку займае роўную тэрыторыю, мае рысы рэгулярнай планіроўкі. Тры крутыя выгіны р. Мнюты ўдала выкарыстаны для стварэння пейзажнай часткі парку з сістэмай вадаёмаў. Гаспадарчыя будынкі з бутавага каменю, пабудаваныя ў 2-й палове XIX ст. Сядзіба захавалася: палац, капліца, гаспадарчыя пабудовы, уязная брама, парк. Тэрыторыя саду забудавана.

## Шумілінскі раён

### ⓫⓶ **Сядзіба** 1-я палова XIX ст.
*г.п. Обаль*




Размешчана на высокім правым беразе р. Обалі. Пабудавана ў 1-й палове XIX ст. Захаваўся сядзібны дом і невялікі пейзажны парк, размешчаны на тэрасе ракі.





# Гомельская вобласць
## Гомель

### ⓫⓷ **Палацава-паркавы ансамбль** 1777 — XIX ст.
*пл. Леніна, 4*



*Малюнак Напалеона Орды*

Палацава-паркавы ансамбль размешчаны ў цэнтры горада, на высокім правым беразе р. Сож. Закладзены ў 1777 г. генерал-фельдмаршалам П.А. Румянцавым-Задунайскім на месцы драўлянага замка Чартарыйскіх. Пры Румянцаве ўзведзены асноўныя пабудовы комплекса: палац, Петрапаўлаўскі сабор (арх. Дж. Кларк) і закладзены парк. У 1834 г. гомельскі маёнтак перайшоў у валоданне да генерал-фельдмаршала І.Ф. Паскевіча. Пры Паскевічах быў перабудаваны палац (арх. А. Ідзкоўскі), комплекс пашыраны і дапоўнены новымі службовымі і гаспадарчымі будынкамі. У наш час ансамбль уключае палац, парк, Петрапаўлаўскі сабор, капліцу-пахавальню (1870—1889 гг.), маяк, будынак «зімовага саду», адміністрацыйны будынак (шахматна-шашачны клуб). Палац быў разбураны ў 1941—1943 гг., адноўлены ў 1969 г., цяпер вядуцца рэстаўрацыйныя работы. Палац — адзін з першых на Беларусі прыкладаў класічнай «паладыянскай» пабудовы. Закладзены разам з палацам парк цягнецца на 800 м уздоўж правага берага р. Сож. Перад палацам парк мае рэгулярны характар з партэрам і газонам, астатняя большая частка парку пейзажная, была ўпрыгожаная скульптурамі, малымі архітэктурнымі формамі, гротамі. Цераз глыбокі яр з рэчкай Гамяюк перакінуты 2 масты. За ярам знаходзіўся пладовы сад. У час вайны парк быў моцна пашкоджаны, пасля адноўлены. Зараз у парку больш за 9 тыс. дрэў мясцовых і экзатычных парод. З'яўляецца адным з прыгажэйшых і найбольш захаваным у рэспубліцы пейзажным паркам з элементамі рамантызму.

**114** **Сядзібна-паркавы комплекс (фальварак Багуслаўскага)** Сярэдзіна XIX—XX стст.
*Прадмесце «Прудок», пас. Будзёнаўскі, 17*

Фальварак быў заснаваны ў сярэдзіне XIX ст. на ўскраіне Гомеля. Уключае сядзібны дом, стайню, гаспадарчы будынак, рэшткі парку з вадаёмам. На тэрыторыі былога фальварка размешчана конна-спартыўная школа. Сядзібны дом выкарыстоўваецца як адміністрацыйны.

## Акцябрскі раён

**115** **Парк** XIX ст.
*в. Харомцы*

Закладзены ў канцы XIX ст. як прысядзібны. Мае выразную геаметрычную планіроўку. Пераважаюць дрэвы мясцовых парод.

## Брагінскі раён

**116** **Парк з рэшткамі сцяны замка Вішнявецкіх** Канец XVIII ст.
*пас. Тэльман*

Закладзены ў XVIII ст. каля замка Вішнявецкіх на правым беразе р. Брагінкі. Спланаваны па радыяльна-рэгулярнай схеме. Ад замка (захаваліся рэшткі сцяны) у бок ракі разыходзіліся 3 алеі. У планіровачную структуру парку арганічна ўключана рэчка. У парку растуць дрэвы мясцовых парод.

## Веткаўскі раён

**117** **Сядзібны дом** Пачатак XIX ст.
*в. Рэчкі*

Сядзіба належала Бычкоўскім. Захаваўся сядзібны дом, пабудаваны ў эклектычных формах. Не выкарыстоўваецца.

**118** **Палацава-паркавы ансамбль** XIX ст.
*в. Хальч*



Маёнтак належаў Халецкім. Палацава-паркавы ансамбль пабудаваны ў пачатку XIX ст. на высокім правым беразе р. Сож. Уключаў палац і два бакавыя флігелі, якія стваралі перад палацам курданёр з партэрам, пейзажны парк і гаспадарчыя пабудовы, размешчаныя ў баку ад палаца. Парк разбіты на схілах глыбокага яра. У аснову кампазіцыі пакладзены прынцып дальніх перспектыў. Захаваліся палац, парк, гаспадарчыя пабудовы (кароўнік, стайня). Палац у 1972—1973 гг. адрэстаўраваны. У ім размешчаны філіял Гомельскага абласнога краязнаўчага музея. Парк здзічэў, больш нагадвае лесапаркавы масіў. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

## Гомельскі раён

**119** **Сядзібна-паркавы комплекс** XIX ст.
*в. Грабаўка*

Сядзіба сфарміравана ў 2-й палове XIX ст. на невысокай тэрасе р. Грабаўка. Сядзібны дом размешчаны на краю тэрасы. Вакол дома сфармаваны газон з дрэўнымі групамі і салітэрамі. Парк выцягнуўся ўздоўж тэрасы. Мае рэгулярную планіроўку. Асноўную яго частку складае яблыневы сад. У парку захаваўся курган.

**120** **Сядзібны дом з паркам** XIX ст.
*в. Каранеўка*

Пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. як «паляўнічы домік». Перад домам невялікая сажалка, участак вакол дома засаджаны дрэвамі і абмежаваны алеямі.

## Добрушскі раён

**121** **Сядзібна-паркавы комплекс** XIX ст.
*в. Дзям'янкі*

Пабудаваны ў канцы XIX ст. на высокім правым беразе р. Іпуці. Належаў Гілярдам. Сядзіба размешчана ў маляўнічым месцы, на ўзгорку са стромкім тэрасападобным схілам, перасечаным ярам, і ў нізіне каля яго асновы. Парадная частка сядзібы мела сіметрычна-восевую кампазіцыю. Сядзібны дом размешчаны на краю ўзгорка. Адсюль адкрываліся віды на блізкія і дальнія перспектывы. Пейзажны парк разбіты каля сядзібнага дома і з двух бакоў яра. Верхні парк быў звязаны з ніжнім лесвіцай па схілу ўзгорка. Ніжні парк меў вадаём з каналамі. Захаваліся сядзібны дом, парк, мураваны мосцік. Сядзібны дом — помнік архітэктуры з элементамі псеўдарускага стылю.

# Жлобінскі раён

**122 Сядзібна-паркавы комплекс** 1890—1893 гг.
*в. Чырвоны Бераг*




Сфарміраваны ў канцы XIX ст. Размешчаны на паўночнай ускраіне вёскі, на беразе р. Добасны. Належаў Паклеўскім-Козелам. Сядзібна-паркавы комплекс добра захаваўся. Уключае сядзібны дом, флігель, стайні, вінакурню, шэраг гаспадарчых буынкаў, парк. Тэрыторыя сядзібы абнесена высокай цаглянай агароджай з брамай. Галоўным архітэктурным акцэнтам комплекса і цэнтрам яго кампазіцыі з'яўляецца сядзібны дом, пабудаваны ў 1890—1893 гг. па праекту арх. Шрэтэра. Падобнае з палацам архітэктурнае рашэнне мае флігель. Парк пейзажна-рэгулярнай планіроўкі закладзены па праекту Ф. Шаніёра на рачной тэрасе. Парк характарызуецца кампактнасцю, выразнасцю прагулачных маршрутаў. Цэнтрам яго кампазіцыі з'яўляецца невялікая па-майстэрску афармленая паляна. Сядзіба — помнік архітэктуры эклектыкі.

# Калінкавіцкі раён

**123 Сядзібна-паркавы комплекс** XVIII ст.
*г.п. Ліпава*

Сядзіба сфарміравана ў сярэдзіне XIX ст. Размешчана на ўсходняй ускраіне вёскі. Складаецца з жылога дома і парку. Сядзібны дом быў пабудаваны ў 1855—1862 гг. Пасля вайны адноўлены. Парк быў закладзены як батанічны сад, мае планіроўку пейзажнага тыпу. Невялікія дрэўныя групы чаргуюцца з палянамі. У парку растуць рэдкія пароды дрэў. Парк захаваўся часткова, страты нанесены прыватнай забудовай.





# Лоеўскі раён

**124 Сядзібна-паркавы комплекс** 1-я палова XIX ст.
*в. Пярэдзелка*

Сядзіба сфарміравана на паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе Дняпра ў 1-й палове XIX ст. Захаваліся сядзібны дом, флігель, парк. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

# Мазырскі раён

**125 Сядзібна-паркавы комплекс** XIX ст.
*в. Барбароў*



Маёнтак належаў Горватам, з 1875 г. — рускаму купцу Бакуненку. Сядзібна-паркавы комплекс сфарміраваны Горватамі ў сярэдзіне XIX ст. на беразе р. Прыпяці. Сядзіба размешчана на месцы старажытнага замка. Сядзібны ансамбль уключаў палац, флігелі, дом аканома, капліцу-пахавальню, парк, службовыя і гаспадарчыя пабудовы. Перад сядзібным домам парадная частка парку мела класічную сіметрычна-восевую кампазіцыю. Па краю тэрасы быў размешчаны пейзажны парк. Захаваліся флігель (перабудаваны пасля вайны), парк, масцік, уязная брама, дом аканома. Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму.

# Нараўлянскі раён

**126 Палацава-паркавы ансамбль** 1-я палова XIX ст.
*г. Нароўля, вул. Кастрычніцкая*

Палацава-паркавы ансамбль размешчаны на паўночна-усходняй ускраіне горада, на правым беразе Прыпяці. Закладзены ў сярэдзіне XIX ст. Горватамі. Цэнтрам кампазіцыі з'яўляецца палац, перад якім арганізаваны вялікі круглы газон. Па восі палаца размешчана ўязная брама. Вакол палаца разбіты пейзажны парк. Растуць пераважна мясцовыя пароды дрэў, ёсць экзоты. Дарожка ўздоўж р. Нараўлянкі вядзе да альтанкі-маяка, з якой адкрываецца від на месца ўпадзення Нараўлянкі ў Прыпяць. У гэтай частцы парку існавала капліца-пахавальня. На тэрасе з боку ракі перад пала-


1914

цам знаходзіцца фантан з басейнам. Былі на тэрыторыі сядзібы ружоўнік, аранжарэя, лядоўня. У 1913 г. Горваты пабудавалі вытворчыя карпусы цукерні. Палацава-паркавы комплекс захаваўся з некаторымі стратамі. Уключае сядзібны дом, парк, фантан, альтанку-маяк, гаспадарчыя пабудовы. Палацава-паркавы ансамбль — помнік архітэктуры класіцызму. Цяпер тут размешчана школа-інтэрнат. Гаспадарчыя пабудовы выкарыстоўваюцца фабрыкай «Чырвоны мазыранін».

### 127 Сядзібна-паркавы комплекс XIX ст.

*в. Галоўчыцы*

Закладзены ў сярэдзіне XIX ст. Горватамі. Сядзібны комплекс уключае сядзібны дом, парк, уязную браму, сады. У парку растуць унікальныя экземпляры ліпы звычайнай з залацістым лісцем у вясенне-летні перыяд, звыш 150-гадовага ўзросту дрэвы конскага каштана, якія дасягнулі вышыні 22—25 м, максімальнай для Беларусі. Раней парк меў арыгінальную водную сістэму, якая складалася з 3 вадаёмаў, аб'яднаных каналамі. Зараз каналы разбураны, вадаёмы абмялелі.

## Петрыкаўскі раён

### 128 Парк XIX—XX стст.

*в. Брынёў*

Закладзены як прысядзібны на мяжы XIX—XX стст. Размешчаны на паўднёва-усходняй ускраіне вёскі. Парк не мае выразнай планіроўкі. Каштоўны сваім дэндралагічным складам. У ім налічваецца 45 відаў дрэў і кустоў. Ручай, які цячэ перпендыкулярна галоўнай алеі, утварае 2 сажалкі. У парку захаваўся мураваны лямус.

### 129 Парк XIX ст.

*в. Дарашэвічы*

Парк закладзены на абрывістым беразе р. Прыпяці як прысядзібны ў 1-й палове XIX ст. Займае амаль прамавугольны ўчастак, абсаджаны па перыметры алеямі. З паўночнага і паўночна-заходняга бакоў яго абкружалі пладовыя сады. Парадная частка парку мела сіметрычна-восевую планіроўку. У аснову кампазіцыі пейзажнай часткі пакладзены прынцып раскрыцця дальніх перспектыў з тэрасы на пойму. Вялікія страты былі нанесены парку ў гады 2-й сусветнай вайны. Парк захаваўся ў відазмененым выглядзе, аднак, нягледзячы на страты, застаецца маляўнічым куточкам на беразе Прыпяці.

## Рагачоўскі раён

### 130 Парк XIX ст.

*в. Забалацце*

Закладзены ў 2-й палове XIX ст. як прысядзібны. Галоўнай уязной алеяй падзелены на 2 часткі: пладовы сад з прамавугольнай сеткай алей і пейзажны парк. У пейзажнай частцы былі вадаёмы. У парку растуць пераважна мясцовыя пароды дрэў.

### 131 Парк Канец XVIII — пачатак XIX ст.

*в. Кісцяні*

Закладзены ў маёнтку Вермана ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. на 2 прыбярэжных тэрасах Дняпра. Да парку прымыкалі пладовыя сады. Парк у плане мае форму прамавугольніка. У паўночнай частцы захаваўся партэр у форме квадрата з невялікім кругам у цэнтры. Цэнтральная частка парку прадстаўлена палянамі і дрэўнымі групамі. Прагулачны маршрут праходзіў па краю верхняй тэрасы. Зараз парк у значнай ступені відазменены. Па заходняй ускраіне забудаваны. Сярод дрэў у якасці салітэраў сустракаюцца экзоты.

## Хойніцкі раён

### 132 Сядзібна-паркавы комплекс

Канец XIX — пачатак XX ст.

*г. Хойнікі, вул. К. Маркса, 19*

Сядзібна-паркавы комплекс пабудаваны ў 1910—1915 гг. на роўнай тэрыторыі. Уключае сядзібны дом (1912 г.) і парк. Парк пейзажна-рэгулярнага тыпу планіроўкі. Мае прамавугольную сетку алей. Перад домам размешчаны парадны партэр прамавугольнай формы. У парку растуць мясцовыя пароды дрэў. Уезд у сядзібу фіксуе 4-пілонная брама. Сядзіба — помнік эклектычнай архітэктуры.

### 133 Сядзібна-паркавы комплекс «Барысаўшчына» 2-я палова XIX — пачатак XX ст.

*в. Барысаўшчына*

Закладзены ў 2-й палове XIX — пачатку XX стст. у маёнтку Эстрэмскага. Размешчаны на паўночнай ускраіне вёскі, на 2 невялікіх тэрасах р. Гаранкі. Уключаў сядзібны дом, жылыя і гаспадарчыя будынкі, парк. Да




сядзібы прымыкае пладовы сад, абгароджаны мураванай сцяной. У аснову кампазіцыі ансамбля пакладзена рэгулярная планіроўка. На верхняй тэрасе знаходзіўся сядзібны дом з парадным партэрам. Парк ніжняй тэрасы меў арыгінальную водную сістэму, якая складалася з вадаёма і каналаў, звязаных з ракой. Парк меў багацейшы ў Беларусі склад экзотаў. Яны раслі пераважна на верхняй тэрасе. Большасць дрэў загінула ў гады Вялікай Айчыннай вайны, частка вымерзла. Зараз у парку расце каля 50 відаў дрэў. Сядзібны дом не захаваўся. Сядзіба — помнік эклектычнай архітэктуры.

### 134 Сядзібна-паркавы ансамбль XVIII ст.

*в. Рудакоў*

Сядзіба закладзена Ваньковічамі ў канцы XIX — пачатку XX ст. Кампазіцыйным цэнтрам сядзібы з'яўляўся сядзібны дом. Да параднӑй часткі сядзібы праз вялікі фруктовы сад вяла алея. Уезд фіксавала брама. Пейзажная частка парку прадстаўлена дрэўнымі групамі, якія чаргуюцца з палянамі. За сядзібным домам парк меў рэгулярную планіроўку. Парк вылучаўся арыгінальнай воднай сістэмай, якая складалася з 3 вадаёмаў, аб'яднаных каналамі. Захаваліся сядзібны дом, стайня, рэшткі парку.

## Чачэрскі раён

### 135 Палац графаў Чарнышовых-Круглікавых XIX ст.

*г. Чачэрск, вул. Ульянава, 4, 6.*
*вул. Інтэрнацыянальная, 58а, 58б*

Палацава-паркавы комплекс заснаваны графам Чарнышовым у канцы XVIII — XIX стст. на паўночна-заходняй ускраіне горада. Комплекс уключаў мураваны палац, шэраг гаспадарчых будынкаў, вінакурню. Пры палацы быў заснаваны пейзажны парк, пладовы сад з 2 аранжарэямі. Тэрыторыя парку паніжалася да грэбеня адкосу і стромка спускалася да поймы р. Чачоры. У час Вялікай Айчыннай вайны парк з садам знішчаны. Палацава-паркавы комплекс захаваўся часткова: палац, 2 стайні, гаспадарчы будынак, вінакурня. Будынкі разрознены, выкарыстоўваюцца рознымі ўстановамі.





# Гродзенская вобласць
# Гродна

### 136 Комплекс Старога замка XIV—XVIII стст.

*г. Гродна, вул. Замкавая, 22*

Комплекс размешчаны ў цэнтральнай частцы горада, на беразе Нёмана, каля вусця р. Гараднічанкі. Сфарміраваўся як комплекс абарончых умацаванняў, культавых і грамадскіх пабудоў. Уключае замчышча, рэшткі княжацкага палацу (XII ст.), рэшткі Ніжняй царквы (XII ст.), рэшткі Верхняй царквы (XIV—XV стст.), фрагменты абарончых сцен, мост, палац «Стары замак». Палац «Стары замак» быў пабудаваны на мяжы XIV—XV стст. для вялікага князя Вітаўта. Каля 1580 г. замак перабудаваны для караля Стэфана Баторыя па праекту італьянскага арх. Скота. Пасля на працягу XVII—XIX стст. неаднаразова рэканструяваўся. У палацы размешчаны Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей.

### 137 Палац Новага замка з брамай і 2 флігелямі 1734—1751 гг.

*вул. Замкавая, 20*




Каралеўскі палац (Новы замак) пабудаваны ў 1734—1751 гг. па праекту арх. М.Д. Пёпельмана. У будаўніцтве ўдзельнічалі арх. І.Ф. Кнобель, І.Х. Яўх. У 1780-я гг. рэканструкцыю палаца праводзіў Дж. Сака. Размешчаны на крутым правым беразе Нёмана. Комплекс складаўся з палаца, 2 флігеляў, брамы, капэлы (не захавалася), гаспадарчага двара, дзе знаходзіліся службовыя будынкі (канцылярыя, стайні, карэтная). Палац быў разбураны ў 2-ю сусветную вайну. Адбудаваны ў 1952 г. (арх. У. Вараксін). У 1793 г. у палацы засядаў апошні сейм Рэчы Паспалітай, які ўвайшоў у гісторыю пад назвай «нямы сейм».

## 138 Сядзібна-паркавы комплекс «Панямунь»
1771 г., сярэдзіна XIX ст.
*Усходняя ўскраіна горада, правы бераг р. Нёман*


Малюнак Напалеона Орды

Пабудаваны ў 1771 г. па праекту арх. Ю. Аляхновіча. Размешчаны на ўсходняй ускраіне горада, на правым беразе Нёмана. Была загараднай рэзідэнцыяй караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Тэрыторыя сядзібы з трох бакоў абмежавана ракой і глыбокім ровам. Сядзібна-паркавы комплекс уключае палац, парк, гаспадарчыя пабудовы, капліцу. Палац размешчаны над стромкім берагам ракі, умацаваным падпорнымі сценкамі. Перад палацам адкрыты партэр. Парк разбіты па схілах рова. Пры ўездзе на тэрыторыю сядзібы размешчана капліčка. Гаспадарчыя пабудовы вынесены за межы параднай часткі ансамбля і пастаўлены з заходняга боку палаца ў адзін рад. Сядзіба — помнік архітэктуры позняга барока.

## 139 Сядзіба «Станіслававова» 1760—1770-я гг.
*вул. Ціміразева*


Малюнак Напалеона Орды

Сфарміравалася ў 1760—1770-я гг. паводле праекта Дж. Сака. Была загараднай рэзідэнцыяй польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Складаецца з палаца і двух флігеляў. Палац размешчаны на вяршыні пакатага схілу. Ніжэй па схілу сіметрычна стаяць 2 бакавыя флігелі, якія ствараюць парадны курданёр. За домам разбіты парк радыяльна-прамянёвай планіроўкі. Гаспадарчыя будынкі размешчаны за заходнім флігелем. Сядзіба — помнік архітэктуры позняга барока.

# Ашмянскі раён

## 140 Замак Сапегі з фрагментамі абарончых збудаванняў XVI—XVII стст., XVIII—XX стст.
*в. Гальшаны*


Малюнак Напалеона Орды

Размешчаны на высокім беразе р. Гальшанкі. Пабудаваны П. Сапегам на мяжы XVI — XVII стст. у стылі маньерызму. Інтэр'еры палаца былі багата аздоблены. Сцены ўпрыгожаны жывапісам, значную дэкаратыўную ролю мелі кафляныя печы, стукавая лепка на столі і камінах. На значнай адлегласці ад замка знаходзіліся абарончыя збудаванні (валы, бастыёны, сістэма абваднення). У XVIII — пачатку XX стст. замак перабудаваны. У выніку быў значна зменены яго першапачатковы выгляд. Абарончыя ўмацаванні знівеліраваны, і заснаваны парк. Парк меў унікальны парадны партэр у двух узроўнях, адзіны вядомы прыклад у Беларусі. Ад шыкоўнага палаца Сапегаў засталіся руіны. Парк цалкам страчаны, захаваліся ліпы, якія растуць па перыметры верхняга партэра.

# Ваўкавыскі раён

## 141 Сядзібны дом (дом Баграціёна) 1805 г.
*г. Ваўкавыск, вул. Баграціёна, 10.*

Пабудаваны ў 1805 г. на ўскраіне горада. У Айчынную вайну 1812 г. з 10 па 17 чэрвеня ў доме знаходзілася штаб-кватэра камандуючага 2-й Заходняй арміяй П.І. Баграціёна. Пазней, у 2-й палове XIX ст. тут была гарад-

ская бальніца, потым прытулак для састарэлых. У Вялікую Айчынную вайну дом быў разбураны. У 1949 г. адноўлены і прыстасаваны пад ваенна-гістарычны музей імя П.І. Баграціёна.

## 142 Сядзібны дом (сучасны Дом культуры)

2-я палова XIX ст.

*в. Гнезна*



1939

Сядзіба сфарміравана ў 2-й палове XIX ст. Размешчана на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Уключае сядзібны дом, 2 флігелі, гаспадарчы будынак, пейзажны парк, 2 мураваныя брамы. Сядзібны дом займае цэнтральнае месца ў сядзібна-паркавым комплексе. Размешчаныя абапал дома 2 бакавыя флігелі ствараюць перад ім курданёр. Вакол сядзібных будынкаў разбіты парк. Перад сядзібным домам парк мае рэгулярную планіроўку. Да парадной часткі парку прымыкае пладовы сад. За сядзібным домам закладзены пейзажны парк з сажалкай. У парку пераважаюць лісцевыя пароды дрэў. Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

## 143 Сядзібна-паркавы комплекс XIX — пач. XX ст.

*в. Краскі*



1989

Сфарміраваны ў XIX — пачатку XX ст. Размешчаны на заходняй ускраіне вёскі, на схіле ўзгорка і каля яго падножжа, на левым беразе р. Зальвянкі. Уключае палац, гаспадарчыя пабудовы і пейзажны парк. Парк паводле планіровачнай кампазіцыі падзяляецца на 3 часткі: партэрную перад галоўным фасадам сядзібнага дома, прагулачную на пакатым схіле ўзгорку і лесапаркавую — на ўзгорку. Зараз парк відазменены. Захавалася каля 30 відаў дрэў. Ёсць экзоты. Сядзіба выкарыстоўваецца дзіцячым санаторыем.





## 144 Сядзіба Пачатак XIX ст.

*в. Падароск*

Сфарміравана ў сярэдзіне XIX ст. Размешчана на паўночнай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Зальвянкі. Уключае мураваны дом, пейзажны парк, гаспадарчыя пабудовы, мураваную агароджу (фрагменты), браму. Парк захаваўся часткова. Растуць мясцовыя пароды дрэў. Сядзіба вызначаецца простай кампазіцыяй, кампактнасцю. Помнік архітэктуры з рысамі класіцызму.

## 145 Сядзібна-паркавы комплекс XIX ст.

*в. Цэлін*



1943

Сфарміраваны ў XIX ст. Размешчаны на левым беразе р. Росі. Захаваліся 2 сядзібныя дамы, перабудаваныя ў 1940-я гг. для санаторыя, і пейзажны парк. Парк з садам сфарміраваны на высокім узгорку. У плане мае форму квадрата, з 2 бакоў абмежаваны каналамі. Яго планіроўка ў значнай ступені вызначана асаблівасцямі рэльефу. На вяршыні ўзгорка паміж сядзібнымі дамамі размешчаны партэр з кветнікамі, кустамі. Схіл аформлены 4 вузкімі тэрасамі з дарожкамі. Пейзажная найбольш маляўнічая частка парку размешчана ў нізкай пойме ракі. У парку пераважаюць лісцевыя пароды дрэў. Парк захаваўся часткова, заходняя яго частка забудавана дамамі санаторыя.

# Воранаўскі раён

## 146 Парк «Больценікі» XIX ст.
*в. Больценікі*


Малюнак Напалеона Орды

Закладзены ў 2-й палове XVIII — пачатку XIX ст. у маёнтку графа Путкамера. Размешчаны на паўднёвай ускраіне вёскі. Займае амаль квадратны ў плане ўзгорысты ўчастак. У паўночна-ўсходняй частцы парку на самым высокім месцы ўзведзены сядзібны дом. Парк пейзажнага тыпу. Яго кампазіцыю фарміруюць асобныя групы дрэў і кустоў, паляны. Расце больш за 60 відаў дрэў, шмат экзотаў. Парк адносна добра захаваўся. Мае жывапісныя ландшафты, дальнія перспектывы і якасны дрэвастой. Гісторыя парку звязана з імем А. Міцкевіча, які гасціў у маёнтку па запрашэнню М. Верашчакі.

## 147 Дом-крэпасць 1613 г.
*в. Гайцюнішкі*


Малюнак Напалеона Орды

Размешчаны ў паўднёва частцы вёскі, на левым беразе р. Жыжмы. Пабудаваны ў 1613 г. уладальнікам Гайцюнішак П. Нонхартам пры ўдзеле інжынера Ван Дадэна. Быў абкружаны ровам, запоўненым вадой. Побач з домам размяшчалася капліца-спачывальня (не захавалася). Пазней гайцюнішскі дом належаў Храптовічам, Корфам, Штрэтэрам, Путкамерам і інш. Дом выкарыстоўваецца медыцынскай установай. Уяўляе сабой унікальны ўзор пабудовы загараднай рэзідэнцыі ў выглядзе мініяцюрнага замка.

## 148 Парк Канец XVIII ст.
*в. Гародна*

Закладзены ў канцы XVIII ст. як прысядзібны. Маёнтак належаў з 1762 г. Тышкевічам, з 1853 г. — Патоцкім, у канцы XIX ст. — Ігнаткевічам, у пачатку XX ст. — Кандратовічам. Сядзібныя пабудовы не захаваліся, дом быў разбураны ў 1914 г. Парк размешчаны ў цэнтры вёскі. Мае рэгулярную планіроўку. У плане парк крыжападобнай формы. Па падоўжнай планіровачнай восі размяшчаліся: ліпавая ўязная алея, парадная частка парку з партэрам, 4 баскеты з вузкімі ліпавымі алеямі па перыметры, вадаём. Парк захаваўся часткова, аднак яго планіровачная кампазіцыя выразна прасочваецца. З'яўляецца тыповым узорам рэгулярнага дробнасядзібнага парку.

# Гродзенскі раён

## 149 Палацава-паркавы комплекс
1779 г., пачатак XIX ст., 1930 г.
*в. Свяцк*



Створаны паводле праекта арх. Дж. Сака для магнатаў Валовічаў. Размешчаны ў маляўнічай узгорыстай мясцовасці. Фарміраванне адбывалася ў два этапы: першы — будаўніцтва палаца (1779 г.), другі — дапаўненне агульнай кампазіцыі бакавымі флігелямі з галерэямі-каланадамі (пач. XIX ст.). Палацава-паркавы комплекс уключае палац, капліцу, гаспадарчыя пабудовы, парк. Парк належыць да ліку першых на Беларусі, створаных у пейзажным стылі. Практычна не мае межаў і візуальна працягваецца ў маляўнічых ландшафтах. Тэрыторыя парку перасечана штучнымі вадаёмамі, каналамі. Відавой пляцоўкай служыла адкрытая паляна на вяршыні ўзгорка. Адсюль адкрываецца маляўнічая

перспектыва на сістэму ставоў. У парку растуць пераважна мясцовыя пароды дрэў. У 1930-я гг. палац быў рэканструяваны (арх. А. Сасноўскі). Тут размешчаны санаторый «Свяцк».

## Дзятлаўскі раён

**150 Палац** 1751 г.
*г.п. Дзятлава, вул. Свярдлова, 2*


*Малюнак Напалеона Орды, 1877*

Пабудаваны ў 1751 г. на левым беразе р. Дзятлаўкі. Належаў Радзівілам, з канца XVIII ст. — Солтанам. За ўдзел Солтанаў у паўстанні 1831 г. сядзіба была секвестравана царскімі ўладамі. У 2-й палове XIX ст. палац выкарыстоўваўся ў якасці ваеннай казармы. Палацава-паркавы ансамбль складаўся з мураванага сядзібнага дома, пейзажнага парку з сажалкай, комплекса гаспадарчых будынкаў. Парк быў упрыгожаны масткамі, павільёнамі. Захаваўся толькі палац. У пасляваенны час у палацы быў размешчаны ваенны шпіталь. Палац — помнік архітэктуры позняга барока.

**151 Сядзібны парк** XIX ст.
*в. Жукоўшчына*
Прысядзібны парк створаны ў XIX ст. Захаваліся рэшткі.

## Іўеўскі раён

**152 Сядзіба** 1870-я гг.
*в. Жамыслаўль*
Створана ў 1870-я гг. Належала Умястоўскім. Размешчана на левым беразе р. Гаўі. Уключае палац, 2 флігелі, парк, альтанку, свіран, склеп, стайню і інш. гаспадарчыя будынкі. Палац і 2 бакавыя флігелі ўтвараюць парадны партэр. Цэнтральную алею перад палацам замыкаюць брама і альтанка. Парк створаны па праекту






*Малюнак Напалеона Орды, 1875*

французскага садоўніка Джэймса. Ракой падзелены на 2 часткі: рэгулярна-парадную вакол палаца і пейзажную. У канцы XIX ст. тут была навуковая база Віленскага універсітэта. Сядзіба — помнік архітэктуры з рысамі позняга класіцызму.

## Карэліцкі раён

**153 Замкава-паркавы комплекс** XVI — пачатак XX ст.
*г.п. Мір*


*Малюнак Напалеона Орды, 1876*

Замкава-паркавы комплекс уключае замак, парк са ставам, капліцу-пахавальню. Мірскі замак — выдатнейшы твор беларускага дойлідства. Закладзены ў XVI ст. Ільінічамі. Пры Радзівілах паступова перабудоўваўся і дапаўняўся. Былі ўзведзены палацы, закладзены рэгулярны парк італьянскага тыпу з сістэмай алей і баскетаў, аранжарэямі і вадаёмамі. Апошнія ўладальнікі — Святаполк-Мірскія — у канцы XIX ст. стварылі пейзажны парк, у 1904 г. па праекту арх. Р. Марфельда пабудавалі ў парку капліцу-пахавальню. Замку выпаў складаны гістарычны лёс. Ён удзельнічаў практычна ва ўсіх войнах, што адбываліся на беларускай зямлі. Пасля Айчыннай вайны 1812 г. моцна пашкоджаны замак доўга

не выкарыстоўваўся. У 1983 г. пачаліся рэстаўрацыйныя работы. Комплекс з'яўляецца унікальным помнікам беларускай архітэктуры, у якім адлюстраваны стылі готыкі і рэнесансу, сумяшчаючы рысы абарончай і палацавай архітэктуры.

## Лідскі раён

### 154 Сядзіба, парк 1-я палова XIX ст.

*в. Малое Мажэйкава*

Створана ў XIX ст. Складаецца з сядзібнага дома, стайні, маслабойні, парку. Парк рэгулярна-пейзажнай планіроўкі. На тэрыторыі парку 2 ставы. Растуць дрэвы мясцовых парод.

### 155 Сядзіба Канец XIX — пачатак XX стст.

*в. Тарнова*

Сфарміравана ў канцы XIX — пачатку XX стст. Уключае сядзібны дом, стайню, лядоўню і ветраны млын. Перад сядзібным домам разбіты сквер з пасадкамі ясеню і клёну. На тэрыторыі сядзібы 2 сажалкі. Сядзіба — помнік эклектычнай архітэктуры.

## Навагрудскі раён

### 156 Сядзіба Міцкевічаў 1807 г., 1887 г., 1955 г., 1992 г.

*г. Навагрудак, вул. Леніна, 1*



*Малюнак Напалеона Орды, 1876*

Пляц, на якім размешчана сядзіба, Міцкевічы набылі ў 1803 г. У 1807 г. пабудаваны мураваны жылы дом. На сядзібным двары знаходзіліся флігель, гаспадарчыя будынкі. Сям'я Міцкевічаў жыла ў доме да 1812 г., затым ён здаваўся ў арэнду, а ў 1838 г. перайшоў да іншых уладальнікаў. У 1881 г. дом згарэў, ацалелі толькі сутарэнні і падмуркі. У хуткім часе адбудаваны А. Дамброўскім. 11 верасня 1938 г. у доме адкрыўся музей Адама Міцкевіча. У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны ў будынак трапіла бомба. Пасля вайны дом зноў быў аднаўлены, і 1955 г. у ім адкрыты музей. У 1990—1992 гг. усе сядзібныя пабудовы былі адрэстаўраваны і прыстасаваны для пастаяннай музейнай экспазіцыі.





### 157 Замак XVI—XIX стст.

*г.п. Любча*

Замак размешчаны на паўднёва-ўсходняй ускраіне пасёлка, на высокім беразе Нёмана. Будаўніцтва замка пачалося ў канцы XVI ст. пры Яне Кішку і закончана пры Радзівілах у пачатку XVII ст. Уяўляў сабой добраўмацаваны прыватнаўласніцкі замак. У 1864—1870 гг. з боку Нёмана быў пабудаваны новы мураваны палац. У гэты ж час за крапасным ровам з паўднёва-ўсходняга боку быў сфарміраваны рэгулярны парк. Да парку прымыкаў пладовы сад. Перад палацам афармлены парадны двор з традыцыйным кругам. З цягам часу замак прыйшоў у заняпад. Палац быў часткова разбураны ў 1914 г. На яго падмурках у 1947—1949 гг. пабудавана школа. Замкава-паркавы комплекс захаваўся фрагментарна: 2 вежы, флігель палаца, земляныя ўмацаванні з рэшткамі абарончых збудаванняў, парк.

### 158 Сядзібна-паркавы комплекс XIX ст.

*в. Уселюб*

Маёнтак вядомы з XV ст. Належаў Неміровічам, Дэвойнам, Радзівілам, у XVIII ст. — Пацеям. Сядзіба пабудавана ў 2-й палове XIX ст. на месцы ранейшай сядзібы Пацеяў. Ад сядзібы XVIII ст. захаваліся фрагменты рэгулярнага парку. Новы сядзібны дом узведзены на найбольш узвышаным месцы тэрасы р. Плісы. Пейзажны парк быў разбіты на 2 тэрасах, якія спускаюцца да сажалкі. Кампазіцыя парку заснавана на кальцавых дарожках-маршрутах. У парку расце больш 40 відаў дрэўных раслін, пераважаюць дрэвы мясцовых парод. Захаваўся буйнейшы ў Беларусі экземпляр арэха шэрага. Зараз кампазіцыя парку парушана пасляваеннымі пабудовамі. З паўночна-заходняга боку да парку прымыкаюць касцёл і капліца-пахавальня.

### 159 Палацава-паркавы ансамбль

1770—1776 гг., канец XIX ст.

*в. Шчорсы*

Палацава-паркавы ансамбль варты ўвагі як каштоўны культурна-гістарычны помнік. Сфарміраваны на працягу 2-й паловы XVIII — пачатку XIX стст. Належаў Храптовічам, з канца XIX ст. — графу Буцянёву. Уключаў палац, два флігелі, павільён бібліятэкі, службовыя і гаспадарчыя пабудовы, парк. Палац быў пабудаваны ў 1770—1776 гг. арх. Я. Габрыэлем паводле праекта Дж. Сака і з удзелам К. Спампані. Перад палацам быў парадны двор, абнесены ажурнай агароджай з брамай. За


Малюнак Напалеона Орды

палацавым комплексам разбіты пейзажны парк з вадаёмамі. У парку знаходзіцца так званы дуб А. Міцкевіча. Паэт жыў у Шчорсах у 1819 і 1820 гг. Паводле легенды пад гэтым дубам ён пісаў паэму «Гражына». Славутасцю сядзібы была бібліятэка з архівам. І.Л. Храптовіч, канцлер Вялікага княства Літоўскага пры Станіславе Аўгусце Панятоўскім, сабраў багатую бібліятэку з архівам (каля 10 тыс. тамоў). У бібліятэцы працавалі І. Лялевель, М. Пачобут-Адляніцкі, М. Вольскі, У. Сыракомля, Ян Чачот. Перад 1-й сусветнай вайной частка бібліятэкі была перададзена Кіеўскаму універсітэту. Палац згарэў у 1914 г. З таго часу сядзіба пачала прыходзіць у заняпад. Захаваліся флігель, павільён бібліятэкі, вяндлярня, парк.

## Свіслацкі раён

### 160 Сядзібна-паркавы комплекс

Пабудаваны ў 2-й палове XIX ст.

*в. Вердамічы*



Палац разбураны ў 1914 г. Парк пейзажнага тыпу размешчаны на раўнінным рэльефе. У аснову парка пакладзена складаная водная сістэма замкнутага тыпу. Яна прадстаўлена ручаём, каналам, сістэмай вадаёмаў рознай велічыні, злучаных пратокамі паміж сабой і р. Россю. На паўночны захад ад вадаёмаў знаходзіцца асноўная пейзажная частка парку, па перыметру абведзеная ліпавай алеяй. Парк вылучаецца дасканалай пейзажнай планіроўкай, апрацоўкай кампазіцыйных дэталей. У ім налічваецца 47 відаў дрэў.

### 161 Сядзібна-паркавы комплекс

Сярэдзіна XIX ст.

*г.п. Поразава*

Пабудаваны ў сярэдзіне XIX ст. У комплекс уваходзяць сядзібны дом і парк. Парк рэгулярнай планіроўкі з сістэмай узаемна перпендыкулярных алей. Сярод дрэў пераважаюць ліпа і таполя.

## Слонімскі раён

### 162 Сядзібна-паркавы комплекс «Альберцін»

1-я палова XIX ст.

*г. Слонім, вул. Калгасная, 8*


Малюнак Напалеона Орды, 1865

Створаны ў 1-й палове XIX ст. як рэзідэнцыя Пуслоўскіх. Размешчаны над р. Ісай. Ансамбль уключаў палац, жылы і службовы флігелі, стайню, браму, млын, гаспадарчыя пабудовы, парк. Побач з сядзібай размяшчаліся суконная і папяровая фабрыкі. Перад сядзібным домам зроблены партэр з сажалкай. Пейзажны парк размешчаны на 2 тэрасах. У аснову яго планіроўкі пакладзены прынцып раскрыцця дальніх і блізкіх перспектыў. На берагах возера парк пераходзіў у лесапарк. Захаваліся: сядзібны дом, 2 флігелі, стайня, брама, парк. Парк відазменены, страчаны парадны партэр.

### 163 Сядзіба графа Пуслоўскага XIX ст.

*ур. Гутка*

Створана ў 1920—1930-я гг. як сядзіба лясной гаспадаркі ва ўрочышчы Гутка. Належала Пуслоўскім. Заха-

валіся: драўляны сядзібны дом, дом для прыслугі, лядоўня, вадакачка. Выкарыстоўваецца для летняга адпачынку дзяцей.

## Смаргонскі раён

### 164 Сядзіба XVIII ст.
*в. Жодзішкі*

Сядзіба створана на працягу XVIII—XIX стст. Размешчана на правым беразе р. Віліі, пры ўпадзенні ў яе р. Святлянкі. Першапачаткова тут існаваў езуіцкі калегіум, узведзены ў 2-й палове XVIII ст. па праекту Т. Жаброўскага. У канцы XVIII ст. будынак калегіума быў перабудаваны ў сядзібны дом. Сядзіба належала Патоцкім, Ласкарысам, Мілачэўскім, Бакшанскім. Уключае сядзібны дом і невялікі парк пейзажнага тыпу. У парку растуць дрэвы мясцовых парод. Пасля Вялікай Айчыннай вайны сядзібны дом быў адноўлены і тут размясцілася медыцынская ўстанова.

### 165 Палацава-паркавы ансамбль Пачатак XIX ст.
*в. Залессе*



З сядзібай звязана жыццё і творчасць дзяржаўнага дзеяча, кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага. Палацава-паркавы комплекс пабудаваны М.К. Агінскім у 1802—1822 гг. паводле праекта арх. М. Шульца з удзелам арх. І. Пусэ і садоўніка Пеўзнера побач са старой сядзібай. Сядзіба ўяўляла сабой развіты палацава-паркавы ансамбль. У комплекс уваходзілі палац, аранжарэі з домам садоўніка, капліца, млын. Каля палаца знаходзіўся шпацырны звярынец, у якім стаялі 2 альтанкі. За шпацырным звярынцам на абалонах ракі быў разбіты пейзажны парк у рамантычным стылі. Акрамя павільёнаў, мосцікаў, тут былі ўстаноўлены памятныя камні ў гонар Т. Касцюшкі і гувернёра Ж. Ролея. За ракой знаходзіўся абнесены магутнай драўлянай агароджай звярынец з дзікімі звярыма. Сядзіба захавалася фрагментарна: палац, капліца, афіцына, парк, гаспадарчыя пабудовы. Ансамбль страціў адну з аранжарэй, дом садоўніка, млын, альтанку, значна перабудаваны палац. Ад сядзібы XVIII ст. захаваліся толькі рэшткі падмуркаў. Парк значна пашкоджаны ў 1915 г. Вядуцца работы па рэстаўрацыі і аднаўленні архітэктурнага аблічча комплекса.



## Шчучынскі раён

### 166 Палацава-паркавы комплекс Канец XIX ст.
*г. Шчучын*




Палац пабудаваны ў канцы XIX ст. па праекту арх. Т. Растварoўскага на месцы былога маёнтка Сцыпіёнаў. Належаў Друцкім-Любецкім. Гаспадарчыя пабудовы знаходзіліся з правага боку ад палаца, з левага боку — было некалькі сажалак. Палац абкружаў вялікі парк. Перад палацам захавалася старая частка парку, якая складалася з 2 ліпавых алей. За палацам пачынаўся «дзікі парк» са звярынцам. Ад мястэчка маёнтак аддзяляла высокая агароджа. Пасля Вялікай Айчыннай вайны і да нядаўняга часу на тэрыторыі сядзібы размяшчаўся ваенны гарадок. Будаўніцтва ваеннага гарадка значна паўплывала на планіровачную структуру палацава-паркавага комплексу. Плануецца правядзенне рэстаўрацыйных работ.

### 167 Сядзібна-паркавы комплекс
Канец XVIII — пачатак XIX стст., 1787 г.
*в. Вялікае Мажэйкава*

Сфарміравана ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. на паўночнай ускраіне вёскі. Комплекс уключаў сядзібны дом, капліцу, парк, абкружаны з трох бакоў пладовым садам, альтанку-ратонду, флігель, бровар і гаспадарчыя пабудовы. Парк закладзены ў 1787 г. Мае сіметрычную рэгулярна-восевую планіроўку. Складаецца з параднага партэра і сістэмы баскетаў, утвораных сет-



Малюнак Напалеона Орды, 1865

кай алей. Уздоўж уязной алеі перад партэрам размешчаны 2 вадаёмы. Сядзіба захавалася фрагментарна: флігель, гаспадарчыя пабудовы, парк, агароджа. Палац згарэў у 1914 г. Парадны партэр парку забудаваны.

### 168 Сядзіба Пачатак XX ст.
*в. Галавічполе*

Сядзіба сфарміравана ў пачатку XX ст. Уключае сядзібны дом і парк. Сядзібны дом пабудаваны ў 1909 г. Вакол яго разбіты пейзажны парк. Структуру парку складаюць алеі і баскеты. На ўскраіне парку шэраг ставоў. Расце больш за 50 відаў дрэў. Сядзіба — помнік архітэктуры стылю мадэрн.

### 169 Палацава-паркавы комплекс
Пачатак XX ст., 1908 г.
*г.п. Жалудок, на правым беразе р. Грушкі*




Сфарміраваны ў пачатку XX ст. Належаў Святаполк-Чацвярцінскім. Уключае мураваны палац, флігель, млын, кузню, рэгулярны парк. Палац пабудаваны ў 1908 г. паводле праекта У. Марконі. Сядзіба — помнік архітэктуры стылю мадэрн. Палацава-паркавы комплекс патрабуе рэстаўрацыі.





## Магілёўская вобласць
## Быхаўскі раён

### 170 Замак 1610—1619 гг.
*г. Быхаў*

Замак размешчаны на ўсходняй ускраіне горада, на высокім правым беразе Дняпра. Будаўніцтва замка распачаў гетман Я. К. Хадкевіч у 1610 г. і завяршыў Л. Сапега ў 1621 г. Замак уваходзіў у сістэму ўмацаванняў горада-крэпасці Стары Быхаў. Уяўляў сабой у плане паўкруг, абкружаны ровам і валам з равелінамі і бастыёнамі. У 2-й палове XVII — XVIII стст. Сапегамі створаны мураваны палацава-замкавы ансамбль у стылі барока. Замкавы комплекс складаўся з 2-павярховага палаца і групы дапаможных збудаванняў, якія ўтваралі ў плане чатырохвугольнік, замкнёны з поўначы мураванай сцяной. Збярогся часткова. Прыстасаваны пад прамысловае прадпрыемства.

### 171 Сядзібна-паркавы комплекс Пачатак XIX ст.
*в. Грудзінаўка*

Створаны ў 1-й палове XIX ст. Належаў графу Д. Таўстому. Складаецца з палаца, парка, альтанкі і некалькіх гаспадарчых пабудоў. Палац размешчаны на вяршыні ўзгорка. На паўночна-ўсходнім схіле разбіты сад, на паўночна заходнім — парк. Пейзажны парк мае перад палацам рэгулярную партэрную частку. У нізіне схіла з заходняга боку размешчана возера, да якога праводзяць ліпавыя алеі. У парку больш за 60 відаў дрэў. Помнік архітэктуры позняга класіцызму. У пасляваенны час тут размешчаны дзіцячы дом; узведзена некалькі новых карпусоў.

## Горацкі раён

### 172 Сядзібны комплекс Канец XIX ст.
*в. Расна*

Сфарміраваны ў канцы XIX ст. Комплекс уключае жылы дом, свіран, бровар, невялікія гаспадарчыя будынкі. Сядзіба — помнік архітэктуры неакласіцызму.

## Кіраўскі раён

### 173 Палацава-паркавы ансамбль XVIII—XIX стст.
*в. Жылічы*

Сфарміраваны ў XVIII—XIX стст. Належаў Булгакам. Размешчаны на беразе р. Добасны. Уяўляў сабой даволі вялікі добра спланаваны палацава-паркавы комплекс. У яго склад, акрамя палаца з паркам, уваходзілі вялікія пладовыя сады, агароды, вадаёмы, дзе вялася рыбная


Малюнак Напалеона Орды

гаспадарка. Быў вялікі гаспадарчы двор, вадзяны млын, вінакурня, крухмальны і цукровы заводы. Захаваліся палац, флігель, свіран, стайні і іншыя гаспадарчыя пабудовы, парк. Палац пабудаваны ў 1830-я гг. арх. К. Падчашынскім, у 1864—1876 гг. дабудаваны. Сярод палацаў вылучаецца багатым убраннем інтэр'ераў. Унутраныя памяшканні былі аздоблены размалёўкай, лепкай, пазалотай, люстэркамі, прычым кожная зала дэкарыравана індывідуальна. Парк займае прамавугольны ўчастак на раўнінным рэльефе. Яго перасякае рака Добасна, утвараючы 3 маляўнічыя вадаёмы з астраўкамі. Захаваліся рэшткі павільёна-купальні, альтанак, масткоў. Перад палацам парк мае рэгулярную планіроўку з партэрам. Астатняя частка парку мае пейзажны характар. У палацы размешчаны музей, музычная школа. Распачаты рэстаўрацыйныя работы. Большасць гаспадарчых будынкаў у занядбаным стане. Палацава-паркавы ансамбль — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

## Крычаўскі раён

**174** **Палац Пацёмкіна** 1778—1787 гг.
*г. Крычаў, вул. Ленінская, 59*




Пабудаваны ў 1778—1787 гг. для князя Пацёмкіна. У 1840-я, 1950-я гг. рэканструяваны. Захаваліся палац, будынак стайні, рэшткі пейзажнага парку і сада. Палац — помнік архітэктуры класіцызму з пазнейшымі напластаваннямі элементаў псеўдагатычнага стылю





## Магілёўскі раён

**175** **Сядзібны дом** Пачатак XX ст.
*в. Дашкаўка*


Малюнак Напалеона Орды

Сядзіба сфарміравана ў 2-й палове XIX ст. на высокай тэрасе Дняпра. Належала памешчыкам Жукоўскім. Сядзібны дом пабудаваны ў пачатку XX ст. У інтэр'еры захавалася арыгінальнае аздабленне залы. Перад домам размешчаны парадны партэр, да якога вядзе ўязная алея. Пейзажная частка парку з вадаёмам у цэнтры размешчана з паўночнага боку ад уязной алеі. У паркавых насаджэннях пераважаюць мясцовыя пароды дрэў (бяроза), экзоты нешматлікія. Усяго налічваецца каля 34 відаў дрэў. За домам парк практычна не мае межаў і зліваецца з маляўнічай поймай ракі. Парк захаваўся часткова.

АН,

**Выданне падрыхтавана
па заказу і пры садзеянні
Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь
па справах ЮНЕСКА**

Тэкст Лілія Чарняўская
Дызайн, вёрстка Сяргей Скіндзер
Карэктар Міраслава Сульдзіна

Падпісана да друку 1.09.2003. Папера афсетная
Тыраж 1000 экз. Заказ

Выдавецтва «РЫФТУР»
Мінск, пр. Машэрава, 19а. Тэл. (017) 223 27 14
Ліцэнзія ЛВN°474 ад 9.01.2001 Дзяржкамдрук РБ

Тыпаграфія «ЮСТМАЖ»
Мінск, вул. Кнорына, 50. Тэл. (017) 269 94 28
Ліцэнзія ЛПN°453 ад 19.06.2001

*На першай старонцы вокладкі (зверху ўніз):
сядзіба Ўмястоўскіх, в. Жамыслаўль; сядзібна-паркавы комплекс
«Альберцін», г. Слонім; палацава-паркавы ансамбль, в. Залессе
(малюнак Леанарда Хадько).*

*На апошняй старонцы вокладкі (зверху ўніз):
сядзіба Агіньскіх, в. Ганута; сядзіба Касцюшкаў, г. Косава;
сядзіба Тышкевічаў, г. Лагойск
Малюнкі Напалеона Орды*

*Выкарыстаны ілюстрацыі з кнігі
R.Aftanazy «Dzieje rezydencji na dawnych kresach
Rzeczypospolitej», 1993*

ISBN 985-6700-10-8



# Сядзібы Беларусі









## Мінск (стар.)



## Мінская вобласць

### Барысаўскі раён



### Бярэзінскі раён



### Валожынскі раён



### Вілейскі раён



### Дзяржынскі раён



### Капыльскі раён



### Клецкі раён



### Лагойскі раён



### Маладзечанскі раён



### Мінскі раён



### Мядзельскі раён



### Нясвіжскі раён



### Пухавіцкі раён



### Слуцкі раён



### Смалявіцкі раён



### Стаўбцоўскі раён



### Уздзенскі раён



### Чэрвеньскі раён



## Брэсцкая вобласць

### Баранавіцкі раён



### Брэсцкі раён



### Бярозаўскі раён



### Ганцавіцкі раён



### Драгічынскі раён



### Івацэвіцкі раён



### Камянецкі раён



### Кобрынскі раён



### Ляхавіцкі раён



### Пінскі раён



### Пружанскі раён



### Столінскі раён



## Віцебская вобласць

### Аршанскі раён



### Бешанковіцкі раён



### Браслаўскі раён



### Верхнядзвінскі раён



### Віцебскі раён



### Докшыцкі раён



### Міёрскі раён



### Пастаўскі раён



### Полацкі раён



### Расонскі раён



### Сенненскі раён



### Талачынскі раён



### Ушацкі раён



### Шаркоўшчынскі раён



### Шумілінскі раён



## Гомельская вобласць

### Гомель



### Акцябрскі раён



### Брагінскі раён



### Веткаўскі раён



### Гомельскі раён



### Добрушскі раён



### Жлобінскі раён



### Калінкавіцкі раён



### Лоеўскі раён



### Мазырскі раён



### Нараўлянскі раён



### Петрыкаўскі раён



### Рагачоўскі раён



### Хойніцкі раён



### Чачэрскі раён



## Гродзенская вобласць

### Гродна



### Ашмянскі раён



### Ваўкавыскі раён



### Воранаўскі раён



### Гродзенскі раён



### Дзятлаўскі раён



### Іўеўскі раён



### Карэліцкі раён



### Лідскі раён



### Навагрудскі раён



### Свіслацкі раён



### Слонімскі раён



### Смаргонскі раён



### Шчучынскі раён



## Магілёўская вобласць

### Быхаўскі раён



### Горацкі раён



### Кіраўскі раён



### Крычаўскі раён



### Магілёўскі раён




*Выданне падрыхтавана па заказу і пры садзеянні Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА*

UNESCO





Складанне, афармленне. «РЫФТУР», 2003.
Ліцэнзія картаграфічная №ГК-0214 ад 7.10.2002,
выдавецкая ЛВ№474 ад 9.01.2001 Дзяржкамдрук РБ


***На вокладцы (зверху ўніз):***
*музей-сядзіба мастака І.Я.Рэпіна, в. Здраўнева;*
*сядзіба-мемарыял А. Міцкевіча, в. Завоссе;*
*палацава-паркавы ансамбль, в. Сноў*